PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 7 (1970) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 13 ЛЮТАГА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Усе чакаем вясны...*

## ВЯРТАННЕ

26 студзеня г. г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь адклікаў свайго спікера, заадно выконваючага абавязкі прэзідэнта дзяржавы, Станіслава Шушкевіча. Фармальна абвінавацілі яго ў тым, што не заплаціў нейкіх рахункаў за цвікі і дошкі, выкарыстаныя пры рамонце яго кватэры. Але гэта была зусім другарадная справа, бо таксама добра перагаласавалі б тады за адстаўку Шушкевіча з-за неадпаведнага колеру гальштука, у якім паявіўся ён на пасяджэнні Вярхоўнага Савета.

Усё паказвае на тое, што элімінацыя прэзідэнта не была выпадковай. Два дні раней камуністычныя дэпутаты пазбавілі пастоў міністра ўнутраных спраў У. Ягорава і шэфа беларускага КДБ Э. Шыркоўскага — палітыкаў, якія ва ўрадзе Беларусі падтрымоўвалі Шушкевіча ў яго змаганні за захаванне суверэнітэту дзяржавы.

Вярхоўны Савет, выбраны дзеля патрэбаў савецкай рэспублікі, не мог зусім выконваць заканадаўчыя функцыі парламента незалежнай краіны. Ён надалей працаваў (і працуе), як тыповая савецкая ўстанова. Большасць дэпутатаў — гэта калгасныя ўраднікі, ветэраны вайны або сацыялістычнай працы, людзі з вельмі абмежаванымі магчымасцямі ўспрымання сучаснай рэчаіснасці. Іх час затрымаўся недзе ў 50—70-х гадах і нават гарбачоўская эпоха была ім ужо зусім незразумелай.

Невялікая жменька дэпутатаў бэнэфаўскай дэмакратычнай апазіцыі спачатку моцна палохала гэты былы авангард савецкага народа, але ў апошнім часе камуністы навучыліся жыць з гэтай апазіцыяй, татальна яе ігнаруючы. Дзень пасля перавароту, 27 студзеня, выконваючы часова абавязкі спікера Вячаслаў Кузняцоў звычайна адбіраў голас лідэру апазіцыі Пазьняку і ўсім дэпутатам ад БНФ, калі тыя спрабавалі весці палеміку з большасцю, захопленай сваёй перамогай. Вокамгненна ажыццявілася добра ўсім вядомыя і спрактыкаваныя дэпутатамі г. зв. сацыялістычная дэмакратыя, калі голас даецца толькі таму, хто будзе доўга дзякаваць і нічога непрадбачанага не скажа.

Незалежнасць Беларусь атрымала не таму, што хацелі яе кіруючыя дзяржавай мясцовыя камуністы. Яна ўпала на іх галовы як няшчасце. У сапраўднасці была вынікам змагання за ўладу ў Маскве паміж Ельцынам і Гарбачовам. Для Ельцына ў той момант, каб пазбавіць канкурэнта паста прэзідэнта Савецкага Саюза, трэба было разбурыць той жа Саюз. Калі характар улады ў Маскве больш-менш акрэслены, пачаўся працэс вяртання толькі што патрачаных Расеяй зонаў уплываў. Дзяржава, якая цяпер аднаўляецца, поўнасцю вяртаецца да традыцый і сімвалаў царскай імперыі. Адстаўка расейскіх рэфарматараў — Гайдара і Фёдарава — абазначае, што Расея хутчэй і больш рашуча будзе падпарадкоўваць свае былыя правінцыі, якія на

☞ Працяг на стар. 4

# ПАНАРАМА ЧАРОМХАЎСКАЙ ГМІНЫ

### 1

### Прыродныя ўмовы

Тэрыторыя Чаромхаўскай гміны распасціраецца на злёгку ўсхваляванай нізіне ледніковага паходжання, якая знаходзіцца ў сярэднім на вышыні 155—185 метраў над узроўнем мора. Найбольшыя высоты сустракаюцца ў паўночна-заходняй частцы гміны, а найніжэйшыя — у паўднёвай, між іншым каля Баброўкі, Зубачоў і Янцэвічаў (152—156 метраў н. у. м.). Розніца высот дасягае ў сярэднім 30 метраў. Наогул рэльеф не ствapae перашкод у развіцці сельскай гаспадаркі.

Чаромхаўская гміна мяжуе з Мілейчыцкай, Нурэцкай, Дубіцкай, Боцькаўскай, Арлянскай і Кляшчэлеўскай гмінамі, а таксама з Рэспублікай Беларусь. Дзяржаўная мяжа ідзе то па рацэ Пульве, то абапіраецца на невялікія ўзгоркі.

На фармаванне сучаснага рэльефа найбольшае ўздзеянне аказалі два апошнія абледзяненні і праца вады з таючых леднікоў. Мы мала ведаем, як выглядаў бы рэльеф без наносаў леднікоў. Пры бурэнні — для прыкладу — у Гайнаўцы марэна максімальнага абледзянення знойдзена была на глыбіні аж 71 метра, у Нараўцы — 8 метраў, а ў Чаромсе на глыбіні ўсяго 1—2 метраў.

Чаромхаўская гміна небагатая радовішчамі карысных выкапняў. Выступаюць тут звычайныя жоўтыя, шэрыя ці белыя сартаваныя пяскі, а таксама жвіры. Гэтыя мінеральныя выкапні выкарыстоўваюцца насельніцтвам як дапаможны матэрыял пры пабудове дарог, цэментабетонных работах і г. д. Радовішча жвіроў выступае на плошчы трох гектараў каля Чаромхі. Таўшчыня пласта дасягае тут 2 метраў.

Каштоўным багаццем гміны з'яўляецца торф. Яго радовішча знаходзіцца на плошчы 200 гектараў каля вёскі Ставішчы. Таўшчыня пластоў 1—1,5 м. Запасы торфу ў 2,5 тысячы кубаметраў. Тарфянікі могуць выкарыстоўвацца як таннае паліва і ў якасці ўгнаення на палі.

На тэрыторыі Чаромхаўскай гміны працякаюць тры рачулкі: Нурэц, Нурчык і Пульва. На невялікім адрэзку ўрэгуляваны толькі Нурэц. Рэчкі насычаюцца грунтовымі водамі і атмасфернымі ападкамі, у сувязі з чым сцёк іх няўстойлівы.

У гміне выступаюць слабападзолістыя глебы. Яны сфармаваліся на пясках і жвірах. Ёсць глебы II і III класаў у наваколлі вёскі Кузава ды V і VI класаў — каля вёскі Ставішчы. Ступень залесенасці ў гміне не аднолькавая. Яна ўтрымоўваецца яшчэ ў межах 38% тэрыторыі. Сярод выступаючых тут парод дрэў першае месца займае сасна — каля 60%, затым елка і чорная вольха.

### Сельская гаспадарка

У Чаромхаўскай гміне ва ўладанні прыватных гаспадароў знаходзіцца 2586 гектараў ворнай зямлі, 1414 гектараў лугоў і пашаў. Маюць яны ў сваім уладанні і 1170 гектараў лесу. Усіх прыватных гаспадарак — 655.

Перадавыя гаспадары ў гміне — гэта Міхал Русін з вёскі Беразышча, Ян Зінчук і Васіль Астапковіч з Чаромхі-пасёлка, Дзмітрый Кердалевіч з вёскі Чаромха, Галена Назарук з Вулькі-Тэрахоўскай, Цэліна Левандоўская з Пагулянкі і Мар'ян Качмажык з Янцэвічаў.

У Чаромхаўскай гміне сярод усіх сельскагаспадарчых культур першае месца па пасяўной плошчы займае жыта, на долю якога прыходзіцца 975 гектараў. Перавага жыта над іншымі культурамі тлумачыцца перш за ўсё яго малой патрабавальнасцю да глеб і агратэхнікі. Яно пераносіць засуху лепш, чым іншыя збожжавыя культуры. Пасевы пшаніцы складаюць усяго 121 гектар. Сярэдняя ўраджайнасць чатырох асноўных збожжавых культур у 1993 годзе склала 19 цэнтнераў з аднаго гектара.

Бульбу вырошчваюць на 480 гектарах. Яна ў эканоміцы паасобных гаспадарак, незалежна ад ураджайнасці глеб, адыгрывае часта рашаючую ролю з увагі на значэнне бульбы ў адкорме хатняй жывёлы і ў прыгатаванні ежы.

Добра тут развітая свінагадоўля (гадуюць 925 штук), гадоўля авечак (573) і кароў (531). З буйнай рагатай жывёлы малочныя каровы складаюць у сярэднім каля 70% пагалоўя, астатнюю частку — маладняк. Найбольш кароў і свіней гадуюць сяляне з вёсак: Чаромха, Баброўка, Вулька-Тэрахоўская, Кузава, Зубачы і Ставішчы. Авечкагадоўля найлепш развінута ў вёсках Беразышча і Чаромха.

Конегадоўля залічваецца пакуль што да неабходных галін жывёлагадоўлі з увагі на цяглавую сілу. У гміне — 195 коней. Найбольш іх у Чаромсе (60), Кузаве (25), Зубачах і Баброўцы (па 20).

☞ Працяг на стар. 3

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Jako Polacy uważamy, że konieczne jest budowanie potęgi całej Słowiańszczyzny, w której silna Rosja i silna Polska będą godnymi siebie partnerami, broniącymi świata przed zalewem żydomasońskiej zgnilizny,* заяўляе Polska Partia Narodowa.

*(Wprost, nr 4)*

* * *

*Nazwa Towarzystwa „Ruś" działającego w Białymstoku ma przypominać o wielkiej Rusi Kijowskiej — tej sprzed z górą tysiąca sześciuset (!) lat. Prezes Towarzystwa Aleksander Nikitin twierdzi, że Polacy mieli kijowskich przodków. Zostaliśmy odcięci od ukraińskiej prasy, książek, telewizji. Nie wiem dlaczego przez satelitę można oglądać w Polsce telewizję białoruską, ale nie ukraińską. Nie trzeba mieć w dowodzie wpisanej narodowości rosyjskiej lub ukraińskiej — twierdzi Nikitin. Wszystkich członków „Rusi" łączyć ma pamięć o wschodnich Słowianach. Ambasador Kaszlew pomógł nam w organizacji koncertu w Białymstoku, ale to nie jest jeszcze poparcie rządu rosyjskiego. Nie mamy nawet poparcia Żyrynowskiego.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 17)*

Паводле нашых меркаванняў, гаспада, Жырыноўскі пра вас пакуль што нічога не ведае. Але падтрымку ягоную будзеце мець на ўсе сто працэнтаў.

* * *

*W Bielsku-Białej sądzeni złodzieje podczas przerwy w rozprawie okradli sędziego.*

*(Nie, nr 3)*

* * *

*Na co wy liczycie? Że mój syn będzie bronił Warszawy? Ależ on nawet nie wie, gdzie to miasto leży! — dziwi się amerykański dziennikarz, komentujący z Pragi wizytę prezydenta Billa Clintona.*

*(Wprost, nr 4)*

А чаму ж малады амерыканец мае ведаць, дзе знаходзіцца Варшава? Ці кожны малады паляк ведае, дзе знаходзяцца Бангі, Яундэ, Уагадугу, Бобо-Дзіўласо? Гэта ж сталіцы вялікіх дзяржаваў, толькі што не еўрапейскіх.

* * *

*CPN zapowiedział, że w bieżącym roku czekają nas trzy czy cztery podwyżki cen benzyny. Paradoks polega na tym, że wszędzie na świecie benzyna tanieje, jest jej mnóstwo i producenci obniżają ceny.*

*Telekomunikacja Polska SA podniosła już ceny na rozmowy telefoniczne i zapewniła, że jeszcze je podniesie. Kilku dziennikarzy określiło to jako bezczelność, gdyż Telekomunikacja Polska SA jest obecnie najbardziej zyskownym przedsiębiorstwem kraju. Po drugie, usługi tej firmy systematycznie się pogarszają.*

*(Polityka, nr 4)*

* * *

*Zabawnych sytuacji w parlamencie białoruskim jest wiele. Jeden z komunistycznych deputowanych, kosmonauta Kowalonok, nie chciał przyjąć białoruskiego obywatelstwa i zgodnie z konstytucją nie mógł pełnić funkcji deputowanego. Sam nawet był skłonny złożyć mandat, ale komunistyczna większość nie wyraziła zgody. Przegłosowali, że Kowalonok nadal będzie posłem nie będąc obywatelem państwa.*

*(Dyskusja, nr 5)*

Гэта найвышэйшы ўзровень ленінскага інтэрнацыяналізму. Віншуем народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета РБ з іх вялікім дасягненнем!

* * *

***Мы стали свидетелями редкого явления, когда существующее правительство Белорусии проводит фактически оккупационную пророссийскую политику против своего государства, направленую на разрушение экономики и ликвидацию независимости.***

*(Народная газета, н-р 10, орган Вярхоўнага Савета Беларусі)*

А на халеру тая „независимость", ад яе канфетак і спірту ў крамах нет.

* * *

*Pod Starogardem Gdańskim zatrzymano grupę Rosjan, która uprowadziła i przetrzymywała w lesie obywatela Ukrainy. Ukraińca wywieźli do lasu, następnie pocięli mu język i posypali solą.*

*(Rzeczpospolita, nr 20)*

Вось такія сабе жарты паміж прадстаўнікамі двух братніх народаў.

* * *

*Cieszę się, że jestem przy tym wspólnym stole — powiedział arcybiskup Stanisław Szymecki podczas spotkania opłatkowego z przedstawicielami Białostockiego Porozumienia Prawicy, w skład którego wchodzi piętnaście ugrupowań. — Rodowód tych ugrupowań jest ten sam. Są to ludzie ochrzczeni.*

*(Gazeta w Białymstoku)*

Гэта абазначае, што ўсе ахрышчаныя беластаччане — правіца. Вынікі выбараў падказваюць, што большасць жыхароў Беласточчыны — гэта магаметане, будысты, юдаісты і язычнікі.

* * *

***Паважаныя працаўнікі калгаса імя Дзяржынскага! Ад душы віншуем усіх са святам нараджэння Езуса Хрыстуса.***

***Управа калгаса***

Пажаданні былі змешчаны ў газеце ***Сцяг працы***.

* * *

*Brutalność — nie, erotyka — tak!*

*(Rzeczpospolita, nr 18)*

Паводле даследаванняў Цэнтра вывучэння грамадскай думкі (ОВОР), 51% палякаў хоча штодзённа глядзець у тэлебачанні фільмы з эратычнымі сцэнамі.

* * *

*Skrupulatni jak zwykle Niemcy policzyli, że w ich kraju nierząd uprawia 400 tys. kobiet. Obsługują one codziennie 1,2 miliona klientów, osiągając obroty 70 miliardów marek rocznie. 80% dochodów handlarze żywym towarem czerpią z pracowitości pań z krajów Europy Środkowowschodniej. Jednak niemiecka klientela przejawia popyt głównie na Azjatki z Tajlandii i Filipin, południowe Amerykanki z Brazylii oraz Afrykanki z Kenii i Togo. Sprowadza się je do Niemiec pod pretekstem małżeństwa, ale ostatnio pod takim samym pretekstem „importuje" się także Polki. Nad egzotycznymi pięknościami mają one tę przewagę, że są tańsze.*

*(Rzeczpospolita, nr18)*

* * *

*Senat jest siedliskiem występku, zła i starczej chuci.*

*(Kurier Podlaski, nr 16)*

На шчасце ўсё гэта дзеецца ў сенаце далёкай Амерыкі.

## З мінулага тыдня

З 1 лютага ўступіла ўсілу **Еўрапейскае пагадненне**, якое было заключанае 16 снежня 1991 г. паміж Польшчай і Еўрапейскай Супольнасцю. На практыцы абазначае гэта, што Польшча набыла статус паўнапраўнага партнёра „дванаццаткі" — краін-удзельніц ЕС. Нашая краіна заявіла таксама аб сваім намеры стаць удзельнікам OECD — гаспадарчай арганізацыі, якая аб'ядноўвае 24 найбольш развітыя еўрапейскія дзяржавы. Удзел у гэтай арганізацыі дазволіць дастасаваць польскую гаспадарку да гаспадарак краін Заходняй Еўропы і будзе першым этапам на шляху да членства ў Еўрапейскай Супольнасці.

**Прэм'ер-міністр Вальдэмар Паўляк** падчас візіту ў Брусель падпісаў дагавор аб далучэнні Польшчы да праграмы „Партнёрства дзеля міру". Удзел у праграме не нясе ніякіх фінансавых абавязацельстваў і не абцяжарвае дзяржаўны бюджэт.

**Маршалак Сейма Юзэф Алексы** прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь **Уладзіміра Сянько**, які запэўніў, што змена на пасту старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі не паўплывае на знешнюю палітыку рэспублікі. „У далейшым будуць падтрымоўвацца цесныя сувязі з усімі суседзямі — Польшчай, Украінай, Латвіяй, Літвой і Расеяй. Сёння ўвогуле немагчыма гаварыць аб якіх-небудзь, не толькі стратэгічных, але і тактычных зменах у нашай замежнай палітыцы. Меркаванне аб адыходзе ад нашага імкнення ў далёкай будучыні да інтэграцыі з Еўрапейскай Супольнасцю было б неналежным падыходам да гэтай справы", — сказаў пасол.

**Федэратыўная Рэспубліка Германіі** выдаліла ў Польшчу ў мінулым годзе 2679 чужаземцаў, якія нелегальна пранікнулі на нямецкую тэрыторыю цераз польскую граніцу. Міністр унутраных спраў **Анджэй Мільчаноўскі** на супольнай з кіраўніком нямецкага МУС **Манфрэдам Кантнерам** прэс-канферэнцыі заявіў, што праз паўтара месяца Польшча будзе кожныя 48 гадзін адпраўляць самалётамі чужынцаў, якія нелегальна перасякуць польскія граніцы.

**„Не" для Жырыноўскага!"** — пад такім лозунгам праходзіла ў Кракаве дэманстрацыя ў сувязі са спадзяваным візітам лідэра расейскіх нацыяналістаў у Польшчу. У пратэстацыйным шэсці па вуліцах старажытнай сталіцы маршыравалі члены Дэмакратычнай уніі і Ліберальна-дэмакратычнага кангрэса. На кракаўскім Галоўным рынку прамаўляў **Ян Марыя Ракіта**, які сказаў, што прапагандуючы нянавісць палітык не павінен атрымаць права на ўезд у Польшчу.

**Беласток** наведалі лідэры правых партый — **Веслаў Хшаноўскі, Габрыель Яноўскі, Рамуальд Шарамецеў і Яраслаў Качынскі**, якія некалькі тыдняў таму падпісалі кааліцыйнае пагадненне правых. Сустрэліся яны з дзеячамі мясцовых структур сваіх партый і з прадстаўнікамі груповак, якія сталі ўдзельнікамі Беластоцкага пагаднення правага лагера. Мэта спаткання — падрыхтоўка да чэрвеньскіх самаўрадавых выбараў.

**Кааператыўны банку Васількаве** апынуўся на грані банкруцтва. Нацыянальны банк Польшчы спыніў яго дзейнасць і ўзбудзіў у Ваяводскім гаспадарчым судзе справу аб неплацежаздольнасці. Спыненне дзейнасці банка пагражае фінансавым крахам для самаўрада Васількава, паколькі на яго рахунках зберагалася 2,5 млрд. гарадскіх грошай.

**Мастацкія канікулы** — гэта лозунг заняткаў для дзяцей і моладзі, арганізаваных у час зімніх канікул Бельскім домам культуры. Арганізатары прапануюць маладым бяльшчанам заняткі ў пластычным, музычным, тэатральным і танцавальным гуртках і экскурсію ў варшаўскі „Cricoland".

**Парафіяльная пачатковая цыганская школа** ўзнікла ў Сувалках. Школа размясцілася ў будынку каталіцкай парафіі. У класах I—III вучыцца пятнаццаць дзяцей цыганскай нацыянальнасці ва ўзросце 12—16 гадоў.

**Паліцыя** затрымала на чыгуначным вакзале ў Беластоку двух мужчын, якія намагаліся пагрузіць у цягнік Санкт-Пецярбург — Варшава 120 газавых пісталетаў і 1200 патронаў да іх. Кантрабандысты займаліся перапраўкай зброі з Нямеччыны на Усход такім чынам, што па дарозе ў Варшаву хавалі тавар у тайнікі, а на другі дзень гэтым жа цягнікам перасякалі дзяржаўную мяжу ў Кузніцы-Беластоцкай.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Прыватызацыя па прынцыпах запаведніка.
- Дзе быць цэнтру беларускай культуры?
- З народнай абраднасці — батлейка.
- Заўвагі Андрэя Гаўрылюка наконт эратычнага жыцця ў Польшчы.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Новы спікер

28 студзеня г. г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у другім туры галасавання выбраў новага старшыню. Стаў ім 58-гадовы генерал міліцыі Мечыслаў Грыб. На першай прэс-канфэрэнцыі новы спікер беларускага парламента выказаўся за цеснае гаспадарчае і мілітарнае супрацоўніцтва з Расеяй.

## Афіцэры супраць БЗВ

Рада Саюза афіцэраў Беларусі накіравала ліст у Вярхоўны Савет, Савет Міністраў, Генеральную пракуратуру і Міністэрства юстыцыі рэспублікі, у якім патрабуюць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці лідэра БНФ Зянона Пазьняка за распальванне міжнацыянальнай варожасці і стварэнне ваенізіраванага фармавання — Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Аўтары ліста лічаць, што публікацыя ў „Народнай газеце" артыкула З. Пазьняка „Аб рускім імперыялізме і яго небяспецы" накіраваная на распальванне варожасці да рускага народа і падрыў дамоўленасцяў з Расеяй аб эканамічным саюзе. З такой жа пазіцыі Саюз афіцэраў разглядае распачатую БЗВ падрыхтоўку да святкавання гадавіны перамогі гетмана Радзівіла над расейскім князем Шуйскім пад Чашнікамі. Рада гэтага Саюза, спасылаючыся на дзеючае заканадаўства, якое не дазваляе ваенным займацца палітычнай дзейнасцю, патрабуе забароны БЗВ.

## Кіраўніцтва БЗВ у мітрапаліта

Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт, патрыярхы экзарх усяе Беларусі, сустрэўся з кіраўніцтвам Беларускага згуртавання вайскоўцаў. У час сустрэчы адбылася гутарка аб ролі Праваслаўнай царквы ў духоўным жыцці краіны. Уладыка Філарэт расказаў аб рабоце па ўвядзенню ў Царкве беларускай мовы. На заканчэнне сустрэчы ён уручыў лідэрам БЗВ вялікі камплект царкоўнай літаратуры.

## Рэха „літоўскай справы"

„Літва не парушыла ні аднаго артыкула прававога дагавора з Беларуссю і бурную дыскусію, якая пачалася ў парламенце РБ і ў інстытутах выканаўчай улады, аб быццам бы незаконнай перадачы Н. Буракявічуса і Ю. Ермалавічуса праваахоўным органам Літвы, хтосьці выкарыстоўвае для вырашэння кадравых праблем у самой Беларусі", — сказаў на прэс-канферэнцыі старшыня літоўскага Сейма Чэславас Юршынас.

## На мяжы — неспакойна

Галоўнае ўпраўленне Пагранічных войск РБ падвяло вынікі работы за 1993 год. Лічбы сведчаць аб тым, што колькасць правапарушэнняў граніцы, спроб перавозу кантрабанды ў параўнанні з 1992 г. рэзка ўзрасла. Усяго ў 1993 г. былі затрыманы 1043 парушальнікі, з іх 942 — прадстаўнікі афра-азіяцкага рэгіёна, астатнія — грамадзяне Беларусі і рэспублік былога СССР. 1318 чалавек спрабавалі нелегальна пакінуць Беларусь, а 125 — пранікнуць такім жа спосабам на тэрыторыю рэспублікі. Выяўлена кантрабандных тавараў на суму больш як 1 млрд. рублёў, а таксама за 1 тысячу адзінак агнястрэльнай зброі. Усяго праз беларускія граніцы ў мінулым годзе было перапушчана больш як 13 млн. чалавек і 7 млн. транспартных сродкаў.

## Асадзі назад!

У апошні час склалася надзвычайная абстаноўка на польскім і прыбалтыйскім участках дзяржаўнай мяжы. Звязана гэта з уступленнем у дзеянне з 1 студзеня г. г. закона аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў РБ грамадзян Беларусі. Згодна з гэтым законам грамадзяне РБ атрымалі права выезду ў любую краіну свету. Аднак для таго, каб паехаць у любую краіну, за выключэннем Расеі, Украіны і часова Літвы, неабходна мець у замежным пашпарце спецыяльны штамп АВІРа. Многія грамадзяне, якія не ведалі аб гэтым, траплялі ў няёмкае становішча. Кожныя суткі з пачатку новага года пагранічнікі былі вымушаны высаджваць з цягнікоў, якія накіроўваліся ў Польшчу і Латвію, да 500 пасажыраў.

## Радыеактыўныя ветэраны

У Менску адбылася II канферэнцыя Беларускага камітэта ветэранаў падраздзяленняў асобай рызыкі. Гэтыя, цяпер ужо немаладыя людзі, 40 гадоў таму ўпершыню на сабе адчулі пякучы подых ядзернага выбуху. У 1954 г. яны сталі, не па сваёй волі, удзельнікамі доследна-паказальнага вучэння з прымяненнем савецкай атамнай зброі ў Тоцкіх лагерах. Многія з іх потым удзельнічалі ў ліквідацыі вынікаў аварый на атамных падводных лодках, рэактарах электрастанцый і іншых аб'ектах, звязаных з радыяцыйнай небяспекай. У Беларусі цяпер пражываюць каля тысячы былых ваенных і цывільных асобаў, якія адносяцца да падраздзяленняў асобай рызыкі і толькі 404 з іх атрымалі льготы.

(вл)

 

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЛЁСУ

У 1916 годзе ў вёсцы Старына (цяпер у гміне Дубічы-Царкоўныя) пачаў сваё жыццё Сяргей Мацкевіч. Кожнаму назначаы свой лёс. Гэты чалавек зведаў шмат дарог і многае ўбачыў. Жыццё Сяргея Мацкевіча з'яўляецца своеасаблівым вобразам долі беларусаў.

Дзяцінства праходзіла ў пушчанскай вёсцы, дзе была невялічкая рэчка, і лугі, і поле. Сярожа найчасцей бегаў там басанож, а найлепшым абуткам былі лапці. Сям'я была мнагадзетнай, жыла ў хатцы, што і свіння магла ўскочыць у сярэдзіну праз акно. Жылося бедна, але заўсёды быў хлеб на стале ды скварка ў свята. Хоць пясчаная зямелька слаба радзіла, але сялянам дапамагала пушча. Непадалёк у Ядлоўцы быў маёнтак пана Валанцэвіча. Сам двор захаваўся і да сёння. Пан з мясцовымі людзьмі гаварыў „па-свойму". Наймаў сялян да працы ў полі. Плаціў за дзень залатоўку. Калі бачыў, што нехта „абіваецца" на полі, дык даваў 50 грошы і адпраўляў дамоў. У пана былі дзве дачкі, якія ў сваім доме вучылі сялянскіх дзяцей. Адна вучыла рахункаў, практычных занятакаў, а другая — польскай мове, малявання, спеваў. У такой школе вучыўся і Сярожа. Успамінаецца:

*Ой, цось там стоі коло дрогі,*
*Як патыкі — сухэ ногі.*
*Глова сломо обвёнзана...*
*Ой, боеся тэго пана.*
*Ӏ умыка пэндэм Стах.*
*А то был на врубле страх!*

Па-мойму — сімпатычны вершык.

Настаўніца старалася навучыць беларускіх дзяцей прыгожа размаўляць па-польску. Тлумачыла ім, што „Польска ест нашо Ойчызно". Малыя жэўжыкі дражніліся: „...нашо яйчызно".

Летам 1939 года Сяргей Мацкевіч служыў у Польскім войску ў Седльцах. Заставаліся лічаныя дні да канца службы, але вярнуцца ў родную вёску не змог. Ужо ў верасні прыйшлося, як польскаму жаўнеру, ісці маршам на Быдгашч біць немцаў, бараніць „Ойчызну". Доўга ішлі: дні і ночы, нават спалі ў маршы. У дарозе афіцэры ўсведамлялі патрыятызм, рыхтавалі да бою. Адной ноччу знайшліся ў нейкім фальварку, дзе ўладкаваліся на начлег. Раніцай аказалася, што іх падраздзяленне ўжо ў нямецкай няволі. Сваіх афіцэраў ужо не было, недзе зніклі. Стральцы склалі зброю, і немцы павялі іх у чыгуначныя вагоны. Доўга везлі іх на захад. Апынуліся недзе пад Францыяй. Там польскіх жаўнераў назначылі мясцовым баўэрам на працу ў гаспадарцы. Сяргею не прывыкаць карміць жывёлу, даіць кароў і цягаць гной. Кожныя некалькі месяцаў перавозілі яго да іншага баўэра. Пасля трапіў у бойню. Ежы тады было ўдоваль. Тады за кавалак мяса ад палоннага француза атрымаў наручны гадзіннік. Аднак доўга ў адным месцы не прыйшлося заседжвацца. Перавозілі з месца на месца, на розныя фабрыкі. Калі працаваў на фарфоравай фабрыцы, быў памочнікам шафёра. Паліцыя арыштавала шафёра за камуністычную дзейнасць. Разам папаўся і наш Сяргей, хаця не быў вінаваты. Апраўдацца было немагчыма. Сяргей Мацкевіч трапіў у канцлагер, дзе прыйшлося зведаць усе яго жахі. І невядома чым гэта скончылася б, каб Сяргей не выстругаў з палена птушку, такую з растапыранымі крыламі і хвастом. Спадабалася гэтая цацка аднаму важнаму нямецкаму афіцэру. Узяў ён спакойнага беларуса да сябе на службу і загадаў стругаць такія птушкі. Набліжалася з усходу савецкая армія. Палонных з канцлагера, у тым і Мацкевіча, паслалі ў Чэхію будаваць дарогі для адступаючых нямецкіх войск. Перавозілі ў чыгуначных ваганетках. Калі побач праязджаў пасажырскі цягнік, у ваганеткі ляцелі пакункі з рознай ежай. У Чэхіі прыйшло вызваленне. Палоннымі заапекаваўся Чырвоны Крыж. Чэхі падлячылі і накармілі. Дзядзька Сяргей з вялікай удзячнасцю ўспамінае аднаго чэшскага лекара, які ведаў Беларусь. Тут міжвольна думаецца пра Янку Геніюша (мужа Ларысы Геніюш і бацьку Юркі), які ў тым часе працаваў у Чэхіі лекарам.

Пасля некалькіх тыдняў Сяргея Мацкевіча паклікалі савецкія вайсковыя службы. Афіцэр, які дапытваў, ніяк не мог разабрацца, чаму гэты беларус у 1939 г. трапіў у палон да немцаў і не мог паверыць, што знаходзіўся ў канцлагеры. Такім чынам Сяргей Мацкевіч трапіў у рады Чырвонай Арміі. Паслалі дабіваць фашызм у Германіі. Вайна хутка закончылася, і салдаты паехалі ў Савецкі Саюз. Сяргею Мацкевічу яшчэ прыйшлося служыць тры гады. Пасля дэмабілізацыі зноў не мог вярнуцца дадому. Яго родная вёска апынулася за дзяржаўнай мяжой, хаця і вельмі блізка яе. Тлумачыў ён, што хоча вярнуцца на сваю Радзіму, але яму даказвалі, што калі ён беларус, дык яго радзімай будзе БССР. Вось так і астаўся Сяргей Мацкевіч там. Пасяліўся ў Зэльвенскім раёне, ажаніўся з мясцовай жанчынай, стаў калгаснікам. Было гэта ў сталінскія часы. Нялёгка жылося ў новым асяроддзі. Праца даводзілася цяжка, а карысці — мізэрныя. Даваліся ў знакі розныя недарэчнасці сацыялізму. Чыноўнікі страшылі пры кожнай нагодзе „белымі мядзведзямі". За Хрушчова стала вальней дыхаць, але не жыць. Усяго бракавала. Сяргей пачаў хварэць. У Зэльве жыў добры лекар — Янка Геніюш. Ён многа дапамагаў. Паслаў Мацкевіча нават у санаторый. А калі даведаўся пра тое, што ён з Беласточчыны, дык дапамог аформіць справы дзеля выезду ў Польшчу. Некалькі гадоў трэба было змагацца, каб сям'я Мацкевічаў магла выехаць за граніцу. І вось як толькі Хрушчова замяніў Брэжнеў, Сяргей разам з жонкай, дачкой і сынам селі ў цягнік у Беласток. Тут яго прывіталі родныя браты. У Старыне не было сям'і Мацкевічаў магчымасці пасяліцца. Знайшлася праца і кватэра ў Гайнаўцы. Тут памалу абжыліся. Дзеці выраслі. Дачка замужам у вёсцы Трывежа ў Гайнаўскай гміне. Сын ажаніўся і жыве ў Міхалове. Жонка памерла. Дзядзька Сяргей жыве ў Гайнаўцы на заслужанай пенсіі. Дакучаюць хваробы і ўспаміны.

**ЯН МОРДАНЬ**

# ПРАТЭСТ

Паважаны сп. Я. Міранові, калі вы сталі галоўным рэдактарам „Нівы", я атрымаў ад Вас пісьмо з просьбай далей пісаць у беларускі тыднёвік. Я Вам паверыў і пісаў, а Вы мяне кампраметавалі. Пакажу некалькі прыкладаў:

— Артыкула аб Качароўскім не надрукавалі зусім, бо гэта ўдарыла б у пана, які ездзіць па Беласточчыне з паднесенай галавой.

— Аб Новым Беразове зусім артыкул пакалечылі. Я ў ім пазнаў толькі свае прозвішча. Напрыклад, я напісаў, што „навучаць" беларускі народ пасылалі дывізіі асветнікаў, а Вы перарабілі на тысячы асветнікаў і тычы лічаць мяне пілсудчыкам. І многа іншага.

— У апошнім часе, я перадаў вершык Сакрату Яновічу на літаратурную старонку. Калі ён туды не падыходзіў, дык не трэба было яго пхаць у „Парнасік", у дадатку пакалечаны. Мне пляваць на „старое" ці „маладое" сэрца — яно малое! Яно тыці, тыці — курынае, а Вашыя паэты паправілі" на „старое". Апрача таго, Вы заўсёды робіце мне „славу" і друкуеце, калі ўжо друкуеце, побач свайго любімага карэспандэнта. Вы сабе можаце яго друкаваць на першай старонцы, а мяне дзесьці на апошняй, але не побач. Зрэшты

Бывайце здаровы
Жывіце шчасліва,
Ну, бо я ўжо сыходжу
Са старонак „Нівы"!

Хопіць мне на ежу
І маю дзе спаці,
Я не мушу болей
Грошай зарабляці.

Многа год пісаў я,
Нават з „Нівай" зжыўся,
Але адчуваю:
„Чаго прычапіўся?"

Адчаплюся, братцы,
Бо шкада паперы
На псаванне ў „Ніве"
Добрай атмасферы.

З пашанай
**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**
Беласток, 31.І.1994 г.

**Ад рэдактара:** Паважаны сп. Петручук, хаця не ўсё разумею з таго, аб чым пішаце, але шаную Вашу волю. Пра Качароўскага (хто гэта такі, ці абы не нейкі лонданскі прэзідэнт?) Вашага матэрыялу я ніколі не бачыў і, магчыма, што з рукапісу пра Новае Беразова мы штосьці не так як трэба адчыталі, але пілсудчыкам, здаецца, яшчэ Вас ніхто не называе. Верш „Драма з хэпі-эндам" не пасавала рэдактарам аўтаномнай старонкі „Белавежа" і запрапанавалі надрукаваць яго на іншай. Паводле мяне, вартасць кожнага літаратурнага твора можа ацаніць толькі чытач і няважна, на якой старонцы ён надрукаваны — на 1, 3 ці 8. Вы думаеце інакш і маеце на гэта поўнае права.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# НАШЫЯ КАЛЯДНІКІ СЯРОД НАЙЛЕПШЫХ

22 і 23 студзеня гэтага года ў Доме культуры ў Бельску-Падляшскім адбыліся Міжваяводскія сустрэчы калядн ікаў. На мерапрыемства прыехала 130 калядоўшчыкаў з пяці ваяводстваў. Беластоцкае ваяводства прадстаўлялі, між іншым, тры беларускія фальклорныя калектывы: „Арэшкі" з Арэшкава (Гайнаўская гміна), „Чыжавяне" з Чыжоў і калектыў з Мельніка. „Арэшкі" і „Чыжавяне" выступілі са звёздамі. У „Чыжавян" была яна найпрыгажэйшая, т. зв. двухрадка.

Выступленням абрадавых гуртоў уважліва прыслухоўваліся члены конкурснай камісіі: двух этнографаў — Ян Адамоўскі (з Любліна) і Зыгмунт Цясельскі ды музыказнавец Ежы Сыруткоўскі (абодва з Беластока). Яны далі высокую ацэнку якраз калядн ікам з Чыжоў і з Арэшкава. Віншуем!

Калядная абрадавая традыцыя ў вёсках з беларускім насельніцтвам трымаецца яшчэ моцна. Цешыць факт, што існуюць таксама і маладзёжныя, і дзіцячыя калектывы. А калі так, дык жа прыгожая традыцыя хаджэння са звяздой або „гэродамі" ці з казой не загіне.

**(яц)**

**P.S.** На V Міжваяводскіх сустрэчах калядн ікаў выступіў гурт, які заснаваўся ў Доме культуры ў Бельску (вядзе яго інструктар Юстына Пажазінская), а таксама маладзёжны хор бельскай парафіі Св. Міхала. Спявалі яны беларускія калядкі. Быў гэта прыгожы спеў, поўны настрою.

# ПАНАРАМА ЧАРОМХАЎСКАЙ ГМІНЫ

☛ *Працяг са стар. 1*

## Дэмаграфія

Чаромхаўская гміна займае плошчу ў 9673 гектары. У ёй дванаццаць сялецкіх вёсак. Найбольшая — гэта асада Чаромха — ранейшая яе назва, з канца XV стагоддзя, Нурэц (яна налічвае 2730 жыхароў), вёска Чаромха (518), Кузава (292), Ставішчы (285), Вулька-Тэрахоўская (180), Зубачы (155), Баброўка (152) і Янцэвічы (61). Ва ўсёй гміне пражывае 4344 чалавекі, што складае 0,6% насельніцтва Беластоцкага ваяводства.

Насельніцтва размешчана на тэрыторыі гміны нераўнамерна. Ніжэйшая шчыльнасць там, дзе знаходзяцца дзяржаўныя і прыватныя лясы. Шчыльнасць насельніцтва ў паасобных мясцовасцях вагаецца ад 40 да 70 жыхароў на адзін квадратны кіламетр і большая, чым у суседніх гмінах.

Прафесіянальны склад насельніцтва цяжка вызначаць таму, што часта члены адной сям'і працуюць аднача сова ў сельскай гаспадарцы і на чыгунцы. Земляробствам займаюцца 1110 чалавек у 655 гаспадарках.

У 1993 годзе ў гміне нарадзілася 54 дзяцей. Бацькі даюць ім такія імёны: Юліта, Патрыцыя, Віялета, Юстына і Аляксандра — для дзяўчынак; Андрэй, Лукаш, Пётр, Павел, Мацей, Эрык і Кэвін — для хлопчыкаў.

У мінулым годзе сышлося 30 пар. Найбольш вяселляў было ў верасні і ў кастрычніку — па чатыры, а ў чэрвені і ў ліпені — па тры. У адным выпадку кавалер з гэтай гміны ажаніўся з беларускай з-за мяжы, з Рэспублікі Беларусь. Была адна маладая пара, у якой кавалер быў на 20 год старэйшы ад выбранніцы.

У вёсках даволі многа пажылых людзей: 122 асобы ва ўзросце ад 80 да 90 ды дваццаць — ва ўзросце 90—95 год і больш. Найстарэйшым жыхарам гміны з'яўляецца Дамінік Кандрацюк з пасёлка Чаромха (нарадзіўся ён у 1887 годзе).

З сумнай хронікі: у 1993 годзе ў гміне памерлі 52 чалавекі. Колькасць насельніцтва зямншаецца (для параўнання: у 1989 годзе ў Чаромхаўскай гміне пражывала 4377 чалавек, на 33 больш, чым у 1993 годзе).

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**




**Szanowna Redakcjo „Niwy"!**

Z bólem serca przeczytałem artykuł o Waszym nowym lokum. Czy ta przeprowadzka była konieczna? Czy nie można było uszanować „Jubilatki" i zostawić Redakcję na dawnym miejscu? Przecież tyle lat pracy pod tym adresem świadczy o potrzebie lokum i o sympatii do pracowników tego tygodnika. Aby uszanować Redakcję, do tego trzeba dobrej woli i kultury na co dzień. Cóż to myśleć o Kulturze Europejskiej, do której dążymy, skoro brak podstawowej w życiu codziennym!

Podziwiam Państwa hart ducha i radość z codziennego życia, gdy przy przeprowadzce jesteście pełni nadziei lepszego jutra i uśmiechu. Życzę owocnej pracy, choć w ciasnym, nowym lokum.

**br. Bronisław Kawecki, OFM**

**Ад рэдакцыі:** Брату Браніславу сардэчна дзякуем за пажаданні.




**ПЕРАСТАНЬМА ПІЦЬ ГАРЭЛКУ!**

Людзі кажуць: „Водка... водка!.."
Мне яна ўжо не салодка.
Мне ўжо так яна прыкудна,
Што глядзець мне стала трудна.

Адзін раз я так напіўся,
Што на вуліцу зваліўся.
Рваў рукамі свае грудзі
І крычаў: „Ратуйце, людзі!"

Людзі беглі, як на дзіва
Альбо неслі квасу, піва,
Хто кіслага малака,
Каб я кішкі спаласкаў.

І сказаў я: „Колькі жыці
Буду, больш не буду піці,
Бо то ўстыд ў дваццатым веку
Так валяцца чалавеку!"

Як так можна налізацца,
Каб на вуліцы качацца?!
Кіньма мы гарэлку піць!
Без яе мы можам жыць!

**АЛЯКСАНДР БАРТАШЭВІЧ**

# БАЮСЯ ГЭТЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ ДАДАТКАЎ

*Інтэрв'ю з беластоцкім паслом ад ПСЛ АДАМАМ ЧЭСЛАВАМ ДАБРОНЬСКІМ*

**„Н.”** — *Выказваючыся нядаўна для адной з газет у справе назначэння намесніка беластоцкага ваяводы, Вы сцвердзілі, што ПСЛ пакідае ініцыятыву за СДЛ, але ставіць пэўныя ўмовы. Адна з іх — гэта тое, што „намеснікам ваяводы не можа стаць асоба, якая прадстаўляе ваюючую, „цвёрдую” групу нейкай нацыянальнай меншасці”. У Беластоцкім ваяводстве няшмат нацыянальных меншасцяў...*

**А. Д.** — Няма сумненняў, што самай вялікай з'яўляецца беларуская меншасць. Астатніх меншасцяў сапраўды жменька.

**„Н.”** — *Якую групу беларускай меншасці Вы лічыце ваюючай, „цвёрдай”?*

**А. Д.** — Матэрыя гэтая настолькі далікатная, а мае веды недастаткова прэцызійныя, каб я мог карыстацца прозвішчамі або назвамі арганізацыяў. Праясню тады сам прынцып, якім я кіраваўся, прад'яўляючы свае заўвагі ды інтэрпрэтацыю паняцця „цвёрдая група”.

Разумею гэта ў катэгорыях палітычнага змагання, цалкам адыходзячы ў гэтым выпадку ад нацыянальных, культурных ці канфесійных крытэрыяў. Былі на Беласточчыне, так прынамсі заўжды гаварылася, стаўленні беларускіх рухаў, якія аддавалі перавагу грунтоўным палітычным зменам нашай рэчаіснасці. Магчыма, што гаварылася аб гэтым з перабольшваннем, а выказваліся на гэту тэму таксама асобы „звонку”, якія не зусім разбіраліся ў складаных рэаліях. Такім чынам, хадзілі нават чуткі аб задумах выдзеліць частку Беластоцкага ваяводства і стварыць фармальныя сувязі з землямі па той бок мяжы. Напэўна былі гэта найчасцей беспадстаўныя абвінавачанні; магчыма, што ўсё-такі здараліся таксама і шалёныя задумы. Гаворыцца таксама, у катэгорыях ужо больш рэалістычных, аб нейкай не зусім спрэцызаванай шырокай аўтаноміі. Ці таксама з элементамі палітычнай аўтаноміі? Баюся гэтых палітычных дадаткаў і, прад'яўляючы свае заўвагі, іх перш за ўсё меў я на думцы.

Непатрэбныя нам чарговыя грамадзянскія войны або хаця б толькі сутычкі на Беласточчыне. Мы перажылі такую вайну пасля 1944 года і памяць аб тым няхай будзе перасцярогай на будучыню. Асабіста шкадую, што падзелы між дзвюма нацыямі і веравызнаннямі цяпер быццам бы ўзмацняюцца. Доказам гэтага з'яўляецца ўсё, што дзеецца вакол спадчыны па гістарычным рэлігійным цэнтры ў Супраслі. Я быў бы засмучаны, калі б у такім напрамку развівалася сітуацыя таксама і ў іншых гарадах і вёсках, епіскапствах і прыходах.

**„Н.”** — *Гэта не супярэчыць самому прынцыпу назначэння намеснікам ваяводы прадстаўніка нацыянальнай меншасці. Падобныя пастулаты ставіць польская меншасць у Беларусі, а ўдзел палякаў у структурах беларускай дзяржаўнасці непараўнальна большы, чымсьці ўдзел беларусаў у структурах дзяржаўнай улады на Беласточчыне.*

**А. Д.** — На жаль, прызнаюся са смуткам, што мае інфармацыі ў сферы беларускіх спраў гэта ўскосныя інфармацыі. Усё-такі, даходзілі да нас чуткі аб пастулатах, каб намеснікам ваяводы была асоба абавязкова беларускай нацыянальнасці. Лічу гэта не самай важнай справай. Проста, гэта павінен быць добры прафесіянал, настолькі высокай асабістай культуры і аб'ектыўнага грамадска-палітычнага стаўлення, каб не ўзнікала пытанне, ці ён беларус ці паляк, католік ці праваслаўны. Значыцца, без заглядвання ў метрыку і пашпарт. Не ўмею параўнаць працэнт палякаў ва ўладах Рэспублікі Беларусь і беларусаў у Рэспубліцы Польшча.

**„Н.”** — *У Апольскім ваяводстве інакш вырашана падобная праблема. Апольскі ваявода назначыў упаўнаважанага па справах нямецкай меншасці.*

**А. Д.** — Не ведаю яшчэ круга абавязкаў і дзейнасці гэтага ўпаўнаважанага. Магчыма, гэта было б добрае рашэнне, хаця, не ведаю, як гэта ўспрынялі б беларуская меншасць на Беласточчыне. У Апольскім ваяводстве нямецкая меншасць „ідзе поўным ходам”, ломячы па дарозе папярэднія суадносіны і дамоўленасці, карыстаючыся прытым выразнай падтрымкай сваёй бацькаўшчыны. Гэтая меншасць стварыла столькі клопатаў адміністрацыйным уладам, выклікала столькі канфліктаў у ваяводстве, што, магчыма, упаўнаважаны быў назначаны, каб іх палагодзіць.

Ці належала б механічна перанесці такое рашэнне ў Беластоцкае ваяводства? Не выключаю падобнага рашэння, усё-такі справа патрабуе стараннага вывучэння.

Напэўна трэба прызнаць, што нямецкая меншасць на Апольшчыне і беларуская меншасць на Беласточчыне — гэта не тое ж самае.

**„Н.”** — *Другая ўмова, якую Вы паставілі СДЛ у сувязі з вызначэннем кандыдата на намесніка ваяводы, менавіта тая, што гэта не можа быць асоба, звязаная з палітычна-адміністрацыйнымі структурамі былой ПАРП, ставіць палітычнага саюзніка ў даволі цяжкае становішча.*

**А. Д.** — Мне здаецца, што беластоцкія паслы ад СДЛ прынялі ўступныя пагадненні са зразуменнем. Не ідзе пра тое, што кандыдат не можа мець паметкі „ПАРП” у сваёй біяграфіі. Я меў на думцы, назавем гэта ўжо гутарковым тэрмінам, „наменклатуру”, значыць асобы, якія выконвалі ад імя ПАРП высокія функцыі ў дзяржаўна-партыйных уладах. Мы не праследуем членаў ПАРП, ды і, зрэшты, самі абараняемся, калі нехта ацэньвае нас толькі праз прызму ранейшай прыналежнасці да ЗСЛ. Хочам глядзець, які гэта быў чалавек, што сабой прадстаўляў, а не які меў партбілет.

У ПСЛ такога роду праверка прайшла сама сабою. Цяпер можам упэўнена сказаць, што маем вялікі працэнт былых членаў ЗСЛ, але няма сярод нас асоб, абцяжараных грэхам незаконных дзеянняў або паводзін, нягодных грамадзяніна Польскай Дзяржавы. Справа заключалася ў такога роду заўвагах.

**„Н.„** — *Вашая партыя, пераймаючы адказнасць за дзяржаву, мусіць распрацаваць таксама адносіны да нацыянальных меншасцяў. Для ПСЛ на Беласточчыне гэта азначае перш за ўсё адносіны да беларускай меншасці.*

**А. Д.** — Хачу заўважыць, што гэта маё першае выказванне для „Нівы”. З гэтай нагоды кідаю наступную думку і, хацелася б, каб яна выспела. Беластоцкі ПСЛ не вельмі ўмеў справіцца з праблемай беларускай меншасці. Тым часам гэта ў большасці таксама сяляне. Такім чынам, „галіновa” — гэта людзі вельмі нам блізкія. Мы напэўна зрабілі памылкі, калі-нікалі рухаліся як той прыказкавы слон у складзе фарфору.

Пакідаю адкрытым пытанне: што зрабіць, каб палепшыць кантакты між ПСЛ і беларускай меншасцю? Са свайго боку і ад імя ўсёй арганізацыі хачу заявіць, што вельмі нам на гэтым паляпшэнні залежыць.

Гутарыў
**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**




*БАРЫС РУСКО*

**БЕЗВЫХОДНАСЦЬ**

Відаць, магчымасці не было  
стварыць на зямлі свет без болю.  
І без пакуты.  
І без роспачы.  
У болю выток аднаўлення.  
У пакуце праходзіць шчасце.  
У роспачы блізіцца смерць.  
Відаць, ёсць недзе іншы свет.  
Проста магчымасці не было  
стварыць на зямлі свет без усмешкі.  
І без шчасця.  
І без ускрыку радасці.

**НЕДАБАЧВАННЕ**

Бачу настолькі, каб чуць шорах крокаў.  
Настолькі, каб блукаць паблізу нуля.  
Настолькі, каб думаць: недзе інакш —  
што далей,  
што глыбей.  
Што дзесьці на грані спіралі  
убачу,  
як вобмацкам блукаю  
з белаю палкай у руцэ.

# ВЯРТАННЕ

☛ *Працяг са стар. 1*

працягу 2-3 гадоў існавалі як незалежныя дзяржавы. Пакуль пры ўладзе ў былых рэспубліках сядзяць старыя савецкія наменклатуршчыкі, а незалежнасць не мае эканамічнага замацавання, дагэтуль не будзе ніякіх праблемаў у вяртанні кантролю над навапаўсталымі дзяржавамі. Працэс гэты мог бы паўстрымаць толькі нейкі ўнутраны падзел імперыі, чаго, аднак, апрача жменькі расейскіх інтэлектуалаў, ніхто ў свеце не хоча.

Праўдападобна няма ў гэтых умовах ніякіх шанцаў захаваць незалежнасць Беларусі. Беларускі народ патраціў чарговы шанц, якім не часта абдароўвае нас гісторыя. Нявыкарыстаныя былі гэтыя апошнія чатыры гады для адраджэння нацыянальнай свядомасці, мовы, культуры, нацыянальнай годнасці. Ашаломленае і стомленае эканамічнымі цяжкасцямі грамадства не дало ніякай падтрымкі дэмакратычнай апазіцыі, дазволіла на яе палітычную ізаляцыю, павернула старым махлярам і перспектывам вярнуць крамы з танным салам, хлебам, цукеркамі і гарэлкай. Нешматлікай інтэлігенцыі не хапіла сіл пачаць працэс перайтварэння гэтага савецкага грамадства ў беларускі народ.

Магчыма, што праз год адбудуцца парламенцкія ці нават прэзідэнцкія выбары, але будзе гэта толькі фармальнасць. На практыцы яны ўжо адбыліся ў студзені гэтага года.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ДАЙДЖЭСТ БЕЛАРУСКІ

Як то ні дзіўна, але навуковага вытлумачэння тэрміна „дайджэст” я не знайшоў ані ў „Тлумачальным слоўніку беларускай мовы”, ані нават у „Беларускай савецкай энцыклапедыі”. Пэўна, для беларусаў гэты тэрмін новы, нязвыклы, і з тае прычыны невызначальны. Праўда, паставіўшы сабе за мэту ўсё ж такі высвятліць, што гэтае слова азначае, я перашукаў процьму выданняў, надрукаваных і ў Беларусі, і ў Польшчы, і ў Расеі і, нарэшце, знайшоў: маскоўскі падручнік для журналісцкіх факультэтаў, выдадзены ў сталіцы СССР ажно ў 1959 годзе пад адыёзным сёння назовам „Жанры советской газеты” тлумачыць значэнне слова сціпла і з густам: „Обзор печати”. Тамака — якраз паміж „Решениями VII съезда РКП(б)” і Пастановленнем ЦК ВКП(б) „О мерах по улучшению районных газет” я знайшоў істотнае ўдакладненне: „Обзор — это одна из важнейших норм партийного руководства печатью” (перапрашаю за відавочны пералішак чужамоўя). Зрэшты, да тэмы гэтай занатоўкі чужамоўе не мае аніякага дачынення, калі не ўлічваць, што праўдападобнае тлумачэнне тэрміну „дайджэст” хаця і з агаворкамі, але знойдзена.

Ну, а цяпер згодна гэтаму вызначэнню („дайджэст — агляд прэсы”) паспрабую даць кароткі каментарый да „Беларускага дайджэста”, які Сп. Мікола Прускі з 1993 года пачаў выдаваць у Злучаных Штатах.

Адрасат выдання відавочны — гэта тыя беларусы, якія, апынуўшыся па-за межамі Бацькаўшчыны, маюць інфармацыйны голад і жадаюць быць у курсе апошніх падзеяў.

Безумоўна, складальнік быў пастаўлены ў жорсткія ўмовы — у дванаццаць старонак звычайнага газетнага фармату ўціснуць найбольш істотныя інфармацыі з галіны палітыкі, эканомікі, культуры, школьніцтва, кнігавыдавання і шмат яшчэ чаго — аж да гумару. Наколькі я магу меркаваць як чытач, складальнік гэтую задачу ў асноўным выканаў, хаця не абышлося і без прыкрых хібаў: двойчы скарыстаўшы ў выданні інфармацыі з нашае газеты (н-р 1 — Адкрыты ліст аўстралійскага беларуса Паўлюка Дуброўскага „Як „дзеці Чарнобыля” ў Аўстраліі адпачывалі” і ў н-ры 2 статыстычную даведку Аляксандра Максімюка „Навучанне беларускай мове на Беласточчыне ў 1993/94 г.), шаноўны Сп. Прускі чамусьці так і не згадаў „Ніву”, хаця спасылкі на рэспубліканскія газеты — і афіцыёзна-міністэрскую „Культуру”, і саўмінаўскую „Звязду” абавязковыя (тым, хто блага ведае сучасную беларускую мову, нагадаю, што „звязда” — гэта „зорка”).

Крыху здзіўляе, што ў якасці першакрыніцаў складальнікі ўзялі пераважна саўмінаўскі друк — чамусьці ані для „Свабоды”, ані для „Нашай Нівы”, ані для іншых незалежных ад цяперашняга ўрада выданняў месца не знайшлося. А, мо, кіраваліся прынцыпам „брць з таго, што пад руку пападзе?”

А цяпер, нарэшце, пра тое, што можа дазнацца цікаўны чытач з першых двух нумароў (бо больш рэдакцыя „Нівы” не атрымала). Вось „Новое повышение цен на нефтепродукты в Беларуси” (палохае Белінфарм-ТАСС), вось „Хворы друк, хворая ўлада, няшчасная краіна” (страшылка Зянона Пазьняка ў „Народнай газеце”), вось „Танны хлеб” пісьменніка Міколы Капыловіча ў „Чырвонай змене”, так што, каб не „Дапамога з Германіі” Міколы Дзябёлы са „Звязды”, было б зусім кепска, але „Літаратура і мастацтва” вуснамі вялікага сябры ўсіх славян Ніла Гілевіча пераконвае, што „Губляць веры нам не трэба...”

Карацей, наколькі могуць пераканацца беларусы па-за межамі Радзімы, далейшыя перспектывы жыцця ў Рэспубліцы паводле „Дайджэста” досыць змрочныя, і гэта, на жаль, цалкам адпавядае рэчаіснасці.

Што можа стацца далей?..

Пачакаем наступных нумароў...

**УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА**

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## Уступ

У Сярэдне-Усходняй Еўропе адбываюцца важныя шырокамаштабныя змены іператварэнні. Пасля 1989 года побач межаў Польшчы з'явіліся новыя незалежныя дзяржавы. У навучанні геаграфіі веданне гэтай шчыльнанаселенай тэрыторыі, яе праблем, дынамікі заходзячых працэсаў у палітычнай, эканамічнай, грамадскай ці культурнай сферах безумоўна становяцца аднымі з асноўных, вельмі актуальных пытанняў.

У польскай школьнай геаграфіі праблематыка суседніх краін, „малых айчын", „сваіх" рэгіёнаў усё яшчэ недаацэнена, а ў падручніках — патрактавана павярхоўна. Ніхто іншы, як менавіта настаўнікі-геаграфы павінны маладое пакаленне грамадзян вучыць адказнаму дзеянню і супрацоўніцтву ў зменлівых сістэмах і структурах рэгіянальнага, міжнароднага і агульнаеўрапейскага значэння. Гэта сур'ёзны выклік, а перш за ўсё — абавязак!

Беларусь устае з многагадовага дзяржаўнага нябыту. Калі смела і ўпэўнена пачне займаць належны ёй пасад, як роўная сярод роўных краін Еўропы, з'явіцца шанц нашага тут, на Беласточчыне, паратунку ад нацыянальнага нігілізму і бяспамяцтва. Мы, беластоцкія беларусы, як мала калі дагэтуль, маем таксама нагоду здзейсніць вельмі важныя заданні ў многіх галінах польска-беларускіх суадносін і супрацоўніцтва.

Геаграфічны матэрыял пра Рэспубліку Беларусь, які будзе друкавацца ў чарговых нумарах „Нівы", рэкамендую вучням старэйшых класаў пачатковай школы, а таксама ліцэістам. Буду ўдзячны тым настаўнікам і их выхаванцам — мілым суайчыннікам, якія на аснове змешчанага ў тыднёвіку тэксту і даступных ім тэматычных карт, альбомаў, статыстычных гадавікоў, слайдаў, фільмаў ці прэсавых звестак захочуць добра пазнаёміцца з геаграфіяй суседняй, нам усім вельмі блізкай краіны —

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ




### I. Геаграфічнае становішча, велічыня і адміністрацыйны падзел.

Рэспубліка Беларусь займае 207,6 тысяч квадратных кіламетраў. Яе насельніцтва складае 10,3 мільёна чалавек.

Сярод рэспублік былога Савецкага Саюза, а цяпер Садружнасці Незалежных Дзяржаў, належыцца ёй шостае месца па плошчы тэрыторыі і пятае месца па колькасці насельніцтва. Па размерах тэрыторыі яна мала ўступае Вялікабрытаніі або Румыніі. Многія дзяржавы Заходняй Еўропы займаюць меншую плошчу. Напрыклад, Швейцарыя меншая за Беларусь у 5 разоў, Бельгія — амаль у 7 разоў. На тэрыторыі Беларусі маглі б адначасова размясціцца Данія, Нідэрланды, Швейцарыя і Бельгія. Па колькасці насельніцтва да Беларусі бліжэй за ўсё Грэцыя, Партугалія, Венгрыя і Бельгія.

Распаложана Беларусь між 23°11' і 32°47' усходняй геаграфічнай даўжыні і між 51°16' і 56°10' паўночнай геаграфічнай шырыні. Далей за ўсё на поўнач граніца Беларусі заходзіць у раёне Асвейскага возера. Крайнія паўднёвыя раёны ляжаць паблізу гарадскога пасёлка Камарын (ён побач Кіеўскага вадасховішча). Крайні заходні пункт Рэспублікі Беларусь знаходзіцца каля горада Высокае, а крайні ўсходні — каля гарадскога пасёлка Хоцімска. Працягласць з поўначы на поўдзень 560 км і з усходу на захад 650 км. Наогул жа тэрыторыя Беларусі нагадвае пяцівугольнік.

Беларуская дзяржава ў суседстве мае Расію, Украіну, Польшчу (даўжыня граніцы — 350 км), Літву і Латвію і займае выгоднае геаграфічнае становішча на шляху з Заходняй Еўропы на Усход і з Украіны ў Прыбалтыку.

Уся Беларусь размешчана ва ўсходнееўрапейскім гадзінным поясе, але розніца ў мясцовым часе тут усё ж прыкметная. На ўсходзе Рэспублікі светавы дзень пачынаецца і заканчваецца прыкладна на 35 мінут раней, чым каля заходніх граніц.

Сталіца Беларусі — горад Менск. У адміністрацыйных адносінах Рэспубліка падзяляецца на 6 абласцей: Брэсцкую, Віцебскую, Гомельскую, Гродзенскую, Магілёўскую і Менскую. У іх складзе — 118 раёнаў.

Дзяржаўныя сімвалы — гэта бел-чырвона-белы сцяг і герб „Пагоня" (працы над гімнам яшчэ не закончаны).

Беларусь з'яўляецца членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**Ю. БАЕНА**

# ВАЯВОДСКІ РЭСТАЎРАТАР ДАПАМАГАЎ

Ваяводскі рэстаўратар помнікаў (Wojewódzki Konserwator Zabytków) — орган спецыяльнай адміністрацыі, непадпарадкаваны ваяводу, а непасрэдна Генеральнаму рэстаўратару помнікаў, арганізацыя якога знаходзіцца ў структуры Міністэрства культуры і мастацтва. У пачатку 1991 года ўзнікла Дзяржаўная служба аховы помнікаў (Państwowa Służba Ochrony Zabytków). Да гэтага часу рэстаўратар помнікаў падпарадкаваны быў дырэктару аддзела культуры і мастацтва ваяводскай управы. Новы статус, лічыць Антоні Аляксіцкі (Ваяводскі рэстаўратар помнікаў у Беластоку), дае незалежнасць ад усялякіх будаўнічых службаў — раней жа, бывала, шмат якія рашэнні вымушваліся на рэстаўратары помнікаў па тэлефоне ад ваяводы.

У рэгістры Ваяводскага рэстаўратара помнікаў у Беластоку занесена прыблізна 10—12 тысяч помнікаў архітэктуры і будаўніцтва (галоўным чынам народнага), 6—7 тысяч рухомых помнікаў (у гэтую катэгорыю ўлічаецца, між іншым, абсталяванне храмаў), 180 старых паркаў, 400 могілак ды 500 месц нацыянальнай памяці. Дзесяць працэнтаў агульнай лічбы вышэйпералічаных помнікаў упісаны ў дзяржаўны рэгістр. Ахоўваюцца яны законам, а ўсякае дзеянне ў дачыненні да іх мае свой строгі рэгламент ды патрабуе згоды ваяводскага рэстаўратара помнікаў. З ініцыятывай занесці аб'ект у дзяржаўны рэгістр помнікаў выступае ваяводскі рэстаўратар помнікаў — усе фармальнасці часамі доўга цягнуцца, бо ўласнік маёмасці можа такое рашэнне падаць на апеляцыю, спярша да Генеральнага рэстаўратара помнікаў, а пазней — у адміністрацыйны суд. Беластоцкі рэстаўратар робіць штогод каля 30 упісаў у рэгістр помнікаў.

У спіску помнікаў у беластоцкага рэстаўратара знаходзіцца каля 180 праваслаўных цэркваў; у помнікі ўлічваюцца таксама некаторыя плябаніі, могілкі, каплічкі.

— Памагаем фінансаваць рамонты як каталіцкіх, так і праваслаўных храмаў, — сказаў А. Аляксіцкі, — не робім тут якіхсьці падзелаў, а стараемся ў меру магчымасцяў адводзіць сродкі туды, дзе яны патрэбныя. Да гэтай пары рэстаўратар мог прынцыпова фінансаваць 23 працэнты агульнага кошту рамонту. У мінулым годзе з'явілася магчымасць г. зв. падрадных рамонтаў (remontów zastępczych) — ваяводскі рэстаўратар помнікаў выступае як галоўны інвестар ды поўнасцю фінансуе работу, калі прыход убогі ды не ў змозе сабраць адпаведныя сродкі. У мінулым годзе правялі мы тры такія інвестыцыі: у Шчытах (змена гонтаў на царкве і званіцы), тое ж самае хацелі зрабіць з плябаніяй у Ласінцы, але з увагі на варожае становішча прыхаджан мы адступіліся ды сродкі тыя перавялі на перамяшчэнне царквы ў Нарве, у Новым Беразове (рэстаўрацыя могілак). У гэтым апошнім выпадку выканаўцам было Таварыства аховы помнікаў у Беластоку (TONZ). Акрамя гэтага працягвалі мы рамонт царквы ў Новай Волі (пачатак інвестыцыі ў 1992 годзе). Трэба тут яшчэ дадаць, што ў ахове помнікаў выдатна дапамагае Царкоўны фонд пры Радзе Міністраў — кожная канфесія мае там сваю камісію. Не маем аднак жа адтуль канкрэтных дадзеных, настаяцелі прыходаў наогул нас не паведамляюць аб прызнаных ім з фонду сродках.

У 1993 годзе Ваяводскі рэстаўратар помнікаў прызнаў наступныя сумы на рамонты праваслаўных аб'ектаў на Беласточчыне:
1. Новая Воля — 57 мільёнаў 969 тысяч злотых (30 мільёнаў у 1992 г.).
2. Новае Беразова — 240 мільёнаў.
3. Нарва — 570 мільёнаў.
4. Шчыты — 687 мільёнаў.

**(ам)**

Да ўвагі настаўнікаў і вучняў VIII класаў

# ПАПРАЎКА

Рэдакцыя замежных моў, Выдавецтва „Школьныя і педагагічныя выданні" і складальнік падручніка беларускай мовы для 8 класа **„БЕЛАРУСКАЯ СКАРБНІЦА"** — Надзея Панасюк перапрашаюць вучняў і настаўнікаў за памылкі, узніклыя ў час друку падручніка і просяць нанесці папраўкі згодна са спіскам:

| Стар. | Радок тэксту | Ёсць | Павінна быць |
|---|---|---|---|
| 26 | 13 | надрукаванабыў | надрукаваны быў |
| 41 | 24 | музкамедыя | Музкамедыя |
| 48 | 30 | аднаведнікі | адпаведнікі |
| 54 | 16 | У нас | У час |
| 62 | 33 | на малацэ | На малацэ |
| 91 | 15 | дасае | дастае |
| 91 | 19-20 | аблупіц-а | аблупіц-ца |
| 127 | 37 | адзначыць | адзначыць, |
| 143 | 10 | Терб | Герб |
| 206 | 21-22 | дажд-жы | даж-джы |
| 219 | 36 | і што | а што |
| 277 | 30 | вайны усё ж | вайны ўсё ж |
| 294 | 8-9 | літаратурнамастацкую | літаратурна-мастацкую |
| 323 | 19 | Р. Бічэль-Загнетава | Д. Бічэль-Загнетава |
| 323 | 25 | У. Добоўка | У. Дубоўка |

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ЁЛКА Ў КРЫЎЦЫ



*І апошні паклон перад публікай.*

Вучні і настаўнікі Пачатковай школы ў Крыўцы сардэчна запрасілі „Зорку" на „ёлку" ў сваю школу — перадалі прыгожа выкананае запрашэнне журналістцы „Нівы" Ганне Кандрацюк — яна і абяцала „Зорчын" прыезд у госці. І ў прыгожы, сонечны дзень 21 студзеня вырушыла аўтобусам з Беластока рэдактар Міра Лукша на свята ў Крывец.

Вучні ўжо з нецярплівасцю чакалі пачатку мерапрыемства. Сядзелі на лавах і крэслах яны і іхнія госці, за прыгожай куртынай таксама адчувалася паспешны неспакой і нецярплівасць — там рыхтаваліся першыя артысты. Усе — прыгожа, урачыста апранутыя.

Пачалі першымі малечы-шасцігодкі. Не ўсё атрымалася зладжана, але выступілі паспяхова, вельмі прыгожа з песнямі, вершамі і танцам. Потым пайшла праграма старэйшых вучняў, разнастайная, вясёлая і прафесійна падрыхтаваная. Найбольш прыемна глядзеліся і слухаліся "Тэленовасці" — пародыя „Тэлеэкспрэса" і рэкламаў, паказ моды, сцэнка на беларускай мове пра служанку-робата і экалагічны міні-спектакль. Да адгадвання крыжаванкі з лозунгам пра ахову прыроды ўключыліся нават настаўнікі! Выступіла таксама з празатарскім беларускім тэкстам Гражына Ахрымюк, лаўрэатка дэкламатарскіх конкурсаў, якая разам з Эвай Зіневіч вяла ўсю праграму „ёлкі". Вучням у падрыхтоўцы выступленняў найбольш дапамаглі настаўніцы Надзея Міхальчук і Бажэна Карчэўская.

Былі яшчэ гіт-парад і конкурс танцаў. Найлепш выступілі Ася і Міхась (на здымку). Другое месца „вытанцавалі" сабе Сільвія Андраюк і Ганя Здрадоўская, а трэцяе — Юлька Карчэўская і Малгося Кананюк.

„Ёлка" прадаўжалася. Якраз дзеці атрымоўвалі падарункі (Дзед Мароз перадаў іх у школу напярэдадні), калі сумнаму з прычыны развітання рэдактару „Зоркі" трэба было бегчы да аўтобуса ў Беласток. Ой, як не хацелася пакідаць Крывец...

**МІРА ЛУКША**



*Эмоцыі перад выступленнем.*



*Гледачы — хто ўжо выступіў, хто чакае свайго выхаду на сцэну...*



*Найлепшыя танцоры — Ася Кананюк і Міхась Хадакоўскі.*

## ДЖАЗ

Жылі-дружылі **Д, Ж, З**. Згуртаваліся ў дружны джаз.

**Д** дудзела на дудзе.

**Ж** іграла на жалейцы.

**З** званіла ў званы.

Дзень у дзень яны гралі ў дзетсадзе, забаўлялі дзяцей. Ду-ду-ду, жы-жы-жы, зі-зі-зі. Ду-жы-зі, ду-жы-зі. Дужымі расціце, моцна спіце...

Аднойчы **Д, Ж, З** запрасілі на падмогу блізкіх суседзяў — **Е, Ё**.

— Давайце разам дзінькаць, дзекаць, дзвынкаць.

— Екатаць, — дадала Е.

— Ёкаць, — далучылася Ё.

Зайграў джаз. Зашоргала піла: дж-дж-дж. Загула пчала: дз-дз-дз. Заекаталі, заёкалі брэменскія музыкі: е-е, е-е-е, ё-ё, ё-ё-ё!

Незвычайны джаз разбудзіў дзяцей. Пачалі дзеці пазнаваць знаёмыя гукі. Дзіва! Дзесьці дзяркач драў дзягіль. Дрозд дрыжаў на дрэве. Дзюбаты дзяцел дзюбаў у дуб. Завіруха жудасна завыла. Дождж жахліва цурчаў. Збянтэжаны зайка заенчыў. **Д, Ж, З**, іх дружбакі **Е, Ё** пад джазаву музыку жвава заспявалі:

*Зяблік знайшоў зярнятка,*
*Зязюлю званочкам заве.*
*Дурэе ў дзетсадзе дзіцятка,*
*Дарослым драмаць не дае.*

Дзеці дружна ўзяліся за рукі, жыва заскакалі, заспявалі:

*Жабка збірае журавіны,*
*Жменькай жахае ў жбан.*
*Дзіма дзіўна дзеліць дыню,*
*Дзілі-дыню, дзілі-дан...*

Джазам дырыжыравала Ё, бо яна ёг і ёсць у яе зыркія вочкі. Да знямогі дурэлі дзеці. На здзіўленне дзядуляў і бабуль, дадому не жадалі збірацца.

Джаз змоўк. Дзетсад — на замок.

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**



## Вершы Віктара Шведа

### АЙЧЫНА — МАЦІ

Даведалася ў школе Натка:
Айчына — гэта наша матка.
Адгэтуль, калі толькі Ната
Са школы вернецца дахаты,

І калі здарыцца часамі
Дакучыць вельмі сваёй маме,
Дык паўтарае ёй няспынна:
— Не гневайся, мая айчына!

### ЗВАРЫЎ БЫ Я КАМПОТ

Настаўнік запытаў Андрушу:
— Ці ты мне можаш адказаць,
Як падзяліць чатыры грушы
Пароўну між асобаў пяць?

— Вось каб з гасцей маіх нікому
Менш не магло папасці ў рот,
Зварыў бы я тады, вядома,
З груш гэтых смачненькі кампот.

### АМАРАЛЬНЫ ДОПІНГ

— Твой самы блізкі сябра Лёўка
Найгоршым вучнем быў у класе.
Ад бацькі атрымаў лупцоўку
І з двойкамі ён развітаўся.

А яго месца ты, мой Сцёпа,
Заняў адгэтуль натуральна.
— Па-мойму, татка, такі допінг
Надта балючы, амаральны!

### ДЗЕ ПРАЦУЕ ТВОЙ БАЦЬКА?

Настаўніца спытала Ваціка:
— Дзе працуе твой бацька?
А на гэта Вацік:
— Ён у камісарыяце.

— Напэўна, зарабляе многа?
— Не магу сказаць нічога.
Сцвярджае мая матуля:
Яго толькі ўчора „зганулі".

### КАЛІ Б ДЫРЭКТАРАМ Я БЫЎ

Настаўнік вучням абвясціў
Надта цікавую праблему:
— „Калі б дырэктарам я быў" —
Гэта пісьмовай працы тэма.

Чаму не пішаш, абібок? —
Настаўнік запытаў Макарку.
— Раблю я гэтае знарок:
Усё чакаю сакратарку.

**БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ**

## У КЕГЛІ

Чэрцяць на зямлі два квадраты, кроках у дваццаці адзін ад аднаго; на працілеглых баках абодвух квадратаў ставяць па сем цыліндрычных драўляных абрубачкаў, кожны вышынёю ў чатыры або пяць вяршкоў, а таўшчынёю ў вяршок або два. Дзеці дзеляцца на дзве роўныя групы, і кожная група выбірае сабе галаву, або матку. Апошняя па свайму жаданню выбірае ў сваёй групе старэйшага, сярэдняга і малодшага сыноў. Абедзве групы дзяцей, узброеныя палкамі, становяцца ў дзесяці кроках ад свайго квадрата. Матка пачынае гульню: кідае палку ў цыліндрычныя абрубачкі, стараецца выбіць іх з квадрата; за маткай працягваюць гульню яе сыны ў строгім парадку, у залежнасці ад правіл, якія ўстанаўлівае матка. Тая група, якая першая закончыць гульню, лічыцца пераможцай. Пераможаную групу караюць так: пераможцы залазяць на плечы працаўніку і прымушаюць насіць на сабе вакол квадратаў і прыгаворваюць:

— Твой дзед на маім ездзіў.

У гэтую гульню ў святочныя дні часта гуляюць і дарослыя.

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

13

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

## Забароненая літара

Вядучы забараняе карыстацца якой-небудзь літарай, напрыклад *б*, і запісвае яе на дошцы. Затым задае ўдзельнікам гульні пытанні, і той, да каго ён звяртаецца, павінен адказаць, памятаючы пра ўмову. Напрыклад, на пытанне, ці былі вы на гэтым тыдні ў бібліятэцы, можна адказаць *заходзіў* або *ўзяў кнігу*, але ні ў якім разе *быў* або *не была* — тады давядзецца выбыць з гульні.

Вядучы павінен быць кемлівым і знаходлівым, бо яго задача якраз вывесці з гульні як мага больш удзельнікаў, схіліць на памылковы адказ нечаканым, хітрым пытаннем, напрыклад: *Адкуль вось гэта кніжка, што ў вашых руках?* адказаць неабходна, а сказаць, што бібліятэчная, нельга, і схлусіць таксама нельга! Вось і падумайце, як адказаць, каб не выбыць з гульні.

Калі вядучы апытаў усіх (можна — па дамоўленасці — па два або па тры разы) і ніхто не выбыў, значыць, усе выйгралі, адзін ён прайграў.

Гульня ідзе ў хуткім тэмпе, адказваць трэба адразу, бо праз паўмінуты выбывае з гульні той, хто не паспеў падабраць патрэбны адказ. Цікава, калі дыялог атрымліваецца жартоўным, напрыклад:

— Як назваць па-беларуску *картошку*?

— *Смакоцце*!

— Няправільна: *бульба*!

— А што: ці ж яна не *смакоцце*?!

## Ланцужок

Ёсць такая гульня — „ланцужок слоў". Хто-небудзь з удзельнікаў гульні называе слова, наступны павінен назваць сваё слова, „счапіўшы" яго з першым, як звенні ў ланцужку, пры дапамозе літары — апошняя ў папярэднім слове павінна быць першай у наступным, напрыклад: *леС — СонцА — АроЛ — ЛагеР — РакА — АвёС*. Тут трэба быць уважлівым, бо „ланцужок" замкнуўся, і трэба не падбіраць новае слова, а сказаць: „Замкнуў!" Сказаць гэта павінен той, хто падабраў спецыяльна такое слова, і гэта дае яму права пачынаць гульню нанава. Калі ж ён сам не заўважыў, што замкнуў „ланцужок", гэта можа зрабіць наступны па чарзе або іншы, і тады той заводзіць гульню далей.

*В а р ы я н т ы:*

1. „Ланцужок" не замыкаецца, а цягнецца да таго часу, пакуль не надакучыць, або пакуль сыдзе час, або пакуль не будзе сказана слова, якое ўжо раней было сказана — лічыцца прайграўшым той, хто сказаў яго.

2. Удзельнікі становяцца ў круг (шарэнгу); той, хто пачынае гульню (па жэрабю ці па лічылцы), трымае ў руках эстафету (палачку, хусцечку, шарык ці іншы прадмет), яна перадаецца разам са словам і ні ў якім разе не затрымліваецца. Калі той, хто па чарзе яе атрымаў, адразу ж не падабраў слова, ён моўчкі перадае яе наступнаму і выходзіць з круга, а наступны павінен сказаць патрэбнае слова. Так што трэба быць вельмі ўважлівым, каб утрымацца да канца і папасці ў лік прызёраў.

3. Гульня можа праводзіцца на ўроку: настаўнік дае слова крайняму злева ці справа вучню, той — суседу па парце, ён — таму, хто сядзіць за ім, і г. д. Настаўнік сочыць, каб захоўваўся тэмп, адхіляе слова, якое ўжо было; пытае аб значэнні асобных слоў, каб усім яно было зразумелым; а таксама адзначае ў спісе, хто адказаў хутка і правільна (адна палачка супроць яго прозвішча), хто крыху затрымаўся (дзве палачкі), хто памыліўся і папраўіўся або затрымаўся з падборам патрэбнага слова даўжэй (тры палачкі), хто памыліўся або так і не падабраў слова (чатыры). Пасля заканчэння „ланцужка" абвяўляюцца вынікі.

4. Дзве каманды стаяць адна насупраць другой; крайні з першай каманды дае слова крайняму з другой, той — наступнаму з першай і г. д. Словы „перакідваюцца", як мячыкі, з каманды ў каманду, а „ланцужок" падаўжаецца. У выпадку памылкі або замінкі адказвае чарговы, але не той з каманды, дзе ўзнікла замінка ці з'явілася памылка, а з другой. Вінаваты выбывае з гульні. Тэмп яе хуткі.

5. В а р ы я н т рухомы: Запісваецца ў слупок словы на дошцы, да якой вучні падыходзяць па выкліку настаўніка (першымі лепш выклікаць вучняў вышэйшага росту), пакуль піша адзін, падыходзіць другі; той, хто не знайшоў слова, пакуль ішоў, уступае чаргу наступнаму, але на месца не вяртаецца, а застаецца каля дошкі на „лаве штрафнікоў"; у яго ёсць магчымасць пазбавіцца ад „штрафу", калі ён хуценька падменіць другога кандыдата ў „штрафнікі" (папросіць дазволу запісаць патрэбнае слова) і вяртаецца на сваё месца.

*(Працяг у наступным нумары)*

# ЛЮТЫ

Люты — самы халодны месяц года. І хоць стаіць ён у феналагічным календары як апошні, завяршальны месяц зімы, яна яшчэ ў поўным разгары. Трашчаць суровыя маразы. Снежны покрыў дасягае максімальнай велічыні. Цэлымі суткамі не змаўкае сцюдзёная завіруха. І, нібы падпяваючы ёй, завodзяць свае завыванні галодныя ваўкі.

Цяжка ў гэтую пару дзікім жывёлам. Асабліва пакутуюць капытныя. З цяжкасцю дастаюць корм з-пад снегу дзікі, хоць іклы моцныя і лыч цвёрды, як плуг, маюць. Горкая ігліца сасны ды асінавая кара — асноўны корм ласёў.

Але горш за ўсё сарне. З усіх бакоў чакае яе небяспека. І ваўкі нападаюць, і злосная рысь падпільноўвае з засады. А на глыбокім снезе рухацца цяжка — раняцца аб вострую скарынку снежнага шарпаку яе тонкія далікатныя ногі, да крыві разбіваюцца маленькія капыткі. Цяжка ёй і з харчаваннем. Добра, калі чалавек дапаможа — дзе снапок сена выставіць, дзе яшчэ якога корму падкіне. Ратаванне гэта для сарны. Але жыццё ў лесе ідзе сваёй чарадой. За магутнай сцяной дрэў ветрам не проста прабіцца сюды. А ў самой лясной глыбіні наогул спакойна і ціха. Увесь снежны покрыў у лесе размаляваны ўзорамі разнастайных слядоў. Вось роўная лінія шырокіх звярыных лап — прайшла зграя ваўкоў. Ішлі марудна і акуратна, след у след, відаць, вярталіся з удалага палявання. Першай прайшла мацёрая ваўчыца, за ёй — сяголеткі і пераяркі, замыкаў зграю дужы стары важак. Няволытны чалавек і не разабраўся б адразу — здаецца, адзін звер прайшоў. А тут зусім танюсенькі след, нібы нітачка, працягнуўся па снезе, павярнуў убок, абышоў кусцік ядлоўцу і раптам абарваўся. Гэта маленькая лясная мышка на некалькі мінут выбегла са свайго падземнага ўкрыцця, нібы хацела паглядзець — ці не на падыходзе вясна, — і зноў, спалоханая марозам, схавалася ў амаль непрыкметнай адтуліне глыбокай норкі.

А тут штосьці рабіла вавёрка. Відаць, адшукала свае закладзенні з восені кладоўкі. Колькі такіх запасаў у вавёркі па ўсім лесе раскідана? Паспрабуй знайдзі іх цяпер пад снегам. А вось спраўляецца — без памылкі знаходзіць.

Пачынаецца перыяд лісіных „вяселляў". Самцы, прытанцоўваючы, заляцаюцца да самак. А з'явіцца побач сапернік — тут жа адбудзецца бойка аж да крыві.

Час бяжыць хутка. Дні становяцца даўжэйшымі, а ночы прыкметна карацеюць. Пачынаюць адлятаць на поўнач, бліжэй да родных мясцін, чачоткі і снегіры. Усё часцей чуецца ў лесе звонкая песня сініцы — першая прыкмета надыходзячай вясны.

# ШКЕЛЬЦЫ

3

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

## ГЭЙ, ГУСАРЫ!

Святаў я не люблю. Дакладней — баюся, бо на кожнае вялікае свята са мной здараецца нешта паганае.

У той новы год мая прыгода пачалася з гусарскага касцюма. Санаторна-лясная школа рыхтавалася да традыцыйнага карнавалу і спаборніцтва касцюміраваных выступаў піянерскіх атрадаў. Наша старэйшая выхавацелька (яна запомнілася мне аповядамі пра сваю працу ў Егіпце) запрапанавала зрабіць гусарскія касцюмы — як у вядомых фігурыстаў Зайцава і Радніной: на старыя школьныя фартухі, абрэзаныя ўнізе, нашыць пазументы і склеіць з кардону ківер. Калі я на выхадныя вярнулася дадому, мама і бабуля ўзяліся майстраваць мне касцюм. Бабуля не пашкадавала свайго чорнага пінжака, мама панашывала на яго бліскучай мішуры з мядзяным бляскам. Як павінен выглядаць ківер, мама і бабуля ўяўлялі цьмяна, але ўрэшце з кардону, фальгі і мішуры атрымалася нешта аб'ёмістае і бліскучае. Калі ў школе пабачылі мой касцюм, я аўтаматычна зрабілася камандзірам гусараў. Рэпеціравала з намі настаўніца спеваў. Мы адносіліся да яе трохі скептычна пасля таго, як яна ў сталоўцы, размаўляючы з фізруком, узважыла рукамі свае пышныя грудзі і пранізлівым сваім голасам пахвалілася:

— О, як тут добра кормяць! Якія ў мяне грудзі зрабіліся — як булачкі!

Напэўна, гэтая жанчына з уласцівым ёй пачуццём гумару знайшла пікантным, што напярэдадне высачэзных падлеткаў-хлапцоў пайду я, самая маленькая і дробная ў класе. Я павінна была прамаршыраваць да Дзеда Мароза, „адрапартаваць" яму пра наша „прышэсце", а пасля павесці атрад вакол ёлкі з песняй „Скажи-ка, дядя, ведь не даром..." На жаль, калі ўрачыстае мерапрыемства пачалося, настаўніца спеваў была нападпітку і пераблытала сцэнарый: замест таго, каб пачакаць, пакуль я „адрапартую", яна „грянула" на акардэоне песню. І адбылося жахлівае. Я разгубілася, хлопцы, што ішлі за мною, таксама. Я няўпэўнена пайшла вакол ёлкі. Аднакласнікі-гусары гэтак жа няўпэўнена шыбавалі за мной, мацюкаліся і спрачаліся, што рабіць. Нехта з дзяўчатаў, што цягнуліся ў хвасце, усё-такі заспяваў, нехта падхапіў песню, але выступ быў сапсаваны канчаткова. Калі мы ўселіся, да мяне, яшчэ не разумеючай, што адбылося, падляцела тэмпераментная „спявачка" і, патрасаючы кулакамі, закрычала:

— Сволач!

Болей я не помню нічога. Напэўна, яна гаварыла нешта яшчэ, але гэта не мела значэння. Мы вярнуліся ў спальню, я зняла свой бліскучы касцюм і заплакала. Дзеўкі збіраліся на працяг карнавалу — танцы, цукеркі; але я настроілася шкадаваць сябе доўга і з асалодай. Безвынікова спрабавалі павесці мяне на свята і сяброўкі, і выхавацелькі. Нарэшце я засталася ў халоднай спальні адна.

Ніколі не забуду гэтую ноч! Ад плачу прыемна кружылася галава, адчуванне самоты і абсалютнай адкінутасці давала нечаканую волю шкадавання да сябе — сапраўдны наркотык. За вакном хісталіся цёмныя яліны, блакітна паблісквaў снег, нават таямніца магілак падалася нястрашнай і амаль зразумелай... А спевы ветру, яго перарывістыя трывожныя рытмы дасюль чую, варта толькі задумацца... Уся квінтэсенцыя сусветных трагедыйных сюжэтаў прайшла скрозь мяне той ноччу... Чароўнай, незабыўнай ноччу...

Але святаў я з тых часоў не люблю.

*(працяг будзе)*

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

*ГАЛІНА БАГДАНАВА*

### НАШЫ РУЧНІКІ

Мама вышыла ручнік
Гладдзю-васількамі.
Ну а мы з сястрой узоры
Выдумалі самі.

— Гэта што?
— Наша хата.
— Ну а гэта?
— Мама, тата,
Брацік, коцік, я.
— Уся нашая сям'я!

### ЗБАНОК

Сеў за кола ганчар,
З гліны выкруціў шар,
Горла... Вушка прырабіў.
Усё ў печы абпаліў.
І глядзіце: ўжо гатовы

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Ну як, Юрка, сёння прайшоў твой урок музыкі? — пытаецца мама.

— Добра. Мабыць, я пачаў вельмі добра іграць, бо настаўніца мела слёзы ў вачах!

* * *

— Куды ты сваё пасведчанне падзеў? — пытаецца ў Пеці мама.

— Я яго Коліку пазычыў, каб напалохаў сваіх бацькоў!..

Янка Ляўкоўскі

# КРЫЖАВАНКА

| | А | Б | В | Г | Д |
|---|---|---|---|---|---|
| I | | 5 | 1 | | 2 |
| II | | ▓ | | ▓ | |
| III | | 7 | 6 | | 4 |
| IV | | ▓ | | ▓ | |
| V | | 8 | | | 3 |

I — рухавік, III — сочыць за парадкам у мястэчках Дзікага Захаду, V — нападзенне.

А — напр. Пік-Пік, В — невялікі мяшок, Д — сугучнасць канцоў вершаваных радкоў.

Літары з пазначаных клетак складуць рашэнне — назву пласцінкі з узорамі літар або простых геаметрычных фігур.

Адказаў чакаем два тыдні. За адгадванку можна выйграць цікавую кніжку (не забывайце падаць свой адрас і клас).

*МІРА ЛУКША*

# ПРОТ, НАРОДЖАНЫ Ў ВЕРАСНІ

Гэтыя боты Прот Мысліўец прывёз сабе з Бельгіі. Якраз на зіму. З падвыжшанай халяўкай, што сцісла абдымала костку, шнураваныя, з рыфлёнай падэшваю. Паехаў быў на Захад яшчэ на прадвесні, дома не меў што рабіць, ён, беспрацоўны філолаг. Карміўся там булкамі, жыў з чатырма палякамі ў піўніцы (свой падцвілы матрац ставіў на дзень пад сцяну, каб хоць крышку падсох). Шкадаваў, што на „Басовішча” не змог прыехаць, але якраз трапілася праца. Перадаў толькі на аўтобус у Беласток, цераз „ніўскую” карэктарку, Лёніку бутэльку шампанскага, каб было чым урачыста абсікаць публіку на адкрыццё фестывалю, не ягоным, аднак, вiном яго адкрылі, бо, як казаў адзін хлопец з БАСу праездам у Англію, Протаў буталь адкаркавалі яшчэ да пачатку „Басовішча”, у „штабе”. Але, шкадаваў, што не быў. Давялося паглядзець толькі відэазапіс, не найлепей перакручаны, ды Валя Жэшка прывезла яшчэ і каляровыя вар'яцкія здымкі з гарадоцкага лесу. Вырас ужо з „басаўскага”, басяцкага ўзросту, з усмешкай пазіраў на паголеныя галовы хлапчанят з ЗБМ ці БАСу. Ды і яны паглядалі на яго, на Макса ці Юрку Ляшчынскага як на мастадонтаў, хто маладзейшы азываўся да іх „вы”... Не той жа час пачатку васьмідзесятых, нелегальшчыны БАСу, „Сустрэчаў”...

Шнураваў свае новыя чаравікі-скурнякі доўга, дакладна, на тоўстую ваўняную шкарпэту, бо раптам узяўся моцны мароз. Не разбуваўся ў Валіка „Цацы”, студэнта беластоцкай палітэхнікі. Цаца гасціў Прота на сваёй канапе. Канапу меў Цаца ў свае сястры, і куфэрак ягоны, увесь Цацаў маёнтак, стаяў у куточку пакоя. Прот заехаў да Цацы адразу ад свае маткі з вёскі, змэнчаны нудою і матчыным маруджаннем наконт „пара пасталець, ажаніўся б, сыночку”, прыхапіўшы ў торбу пута пахучай ядлоўцам, файна падсохлай ад свят каўбасы і бутэльку „выбаровай”. Беласток прывітаў яго раскіслымі ад бурага снегу вуліцамі і неактуальнымі адрасамі знаёмых. А выпіць жа трэба юбілейную пляшку — у верасні, праўда, даўнавата, Прот скончыў свае трыццаць пяць.

— Цаца, возьмем Даротку, пойдзем разам да Базыля. Не пісаў мне нічагуткі, гад, можа, хворы?.. Ты ў яго быў, кончыў ён маляваць свой „Марнатраўны букет”? Не ведаеш?..

— От, той твой Прот мазэпа такі, хто яго абразы купляць будзе! Малюе той свой славуты букет паўгода... Ага, Даротка пайшла замуж за новага шэфа БАСу... На з'ездзе ты не быў... Памятаеш Юрку Сульжыка? Ну, то за яго пайшла. Можа, Вінярскія ў акадэміку будуць. Можна будзе выпіць... Толькі ці хоць хлеб яны маюць? На „атрасінах” першакурснікаў запрашалі мяне зайсці. Але, сесія кончылася, то пэўна ў Гарадок з'ехалі. Дарэчы, Прот, няма чаго шукаць, параз'язджаўся народ па свеце. Усе за мяжою, з чужога гувна свет адмываюць. Ну, а што ж ты рабіў у той сваёй Бельгіі? — Цаца крактаў, выцягаў з-пад канапы свае шэрыя ад пылу шкарпэткі. — Ну, то як? Не сумна табе там было, увесь жа Захад у нашых?

Прот гідліва страсянуў з каленяў малога Цацавага пляменніка, пахучага кіслым малаком, які занудліва, у апісяных майтках лез бавіцца да дзядзькі.

— А рабіў, рабіў. Ад самоты мала не здох. Але часу не меў на дурныя думкі. Ну, сёння можа і не найлепшы дзень да святкавання спозненых нарадзін...

— Але зарабіў, не?

— Зарабіў. Набыў сёе-тое. Хоць не сядзеў тут, беспрацоўным. Свет крыху пабачыў.

— Ага... То я вазьму слоік з мамінаю тушонкаю. Ну, то як там было, Прот, расказвай. А твая Гандзя, ведаеш, то з Мірыкам Шыманскім гешэфт трымае, кіёсачак адчынілі, спажывецкі, але прыйдзецца ім хіба збіраць абоз, падаюць не такія фірмачкі, як іхняя. Дарэчы, што там такое з ёю ды Базылём было?.. Бачыш, як яно ёсць — дупа ёсць, дупы няма. Вашу Гандзю іншыя ўжываюць, а з вамі маеш вось што... Што ты маўчыш, кажы, як там было... Ну, веш...

— Цаца, добра. Не прыехаў я сюды, каб камусь пад коўдру заглядаць! — Прот нецярпліва зацягваў замок курткі, аж прышчаміў палец. — Я хачу сягоння правесці час прыемна. Маем выпіць маю пляшачку. Многа нам не трэба, але свята ёсць. Тут справа ў месцы, дзе гэта зрабіць.

— Ну, і з кім...

— Ну, як — з кім? Мы з табою — добрая кампанія. А пойдзем да Базыля. На згоду вып'ем. Абяцаў жа мне даць карціну на павітанне маёй сталасці.

— Узяў бы ты семяноўскі краявід. Там цяпер файна, намаляваў бы табе Базыль па-людску, возера, вось была б памятка, — Цаца шморгаў носам, паружавелы ад ахвоты выпіць і забавіцца. — Ты ж хлапец вясковы, хоць выпадкова народжаны ў Гайнаўцы, так як і я, толькі дзесяць гадоў за мяне раней...

— Глядзіш ты на мяне, Валік, як на нейкага дыназаўра. А што, можа, у маім узросце мужчыны ўжо не жывуць? Гэта ж, дарэчы, вашае пакаленне называюць „страчаным”, не наша! Мы рабілі гісторыю, а вы? Вось яшчэ адзін род запозна на свет паявіўся...

Прот глядзеў на падпухлы, нявыспаны Валікаў твар над чырвоным шалікам. У слабым святле лямпачкі ў ліфце здаўся яму страшэнна чужым, далёкім. А жа ж да Цацы першага Прот прыехаў, пачцівага, смешнага, добрага, наіўнага часам аж да дурноты; не, гэта была толькі маска малога блазна, Прот ведаў. Чакаў яго звыклых ідыятычных жартаў, чорнага гумару, здзіўлення і захаплення словам... Сёння іхняя размова плоска абівалася пад ягоным чэрапам, нешта толькі паколвала, ныла...

Аўтобуса доўга не было. Пад'ехалі пару прыпынкаў, потым падбеглі, каб пагрэцца, метраў дзвесце заплоццямі вуліцы Кіеўскай. Прот ведаў гэтыя мясціны на памяць, мог ісці з завязанымі вачыма аж да Вясёлай вуліцы. Да Базыля Міхневіча.

Свяцілася амаль ва ўсіх вокнах. Белыя неонавыя шыбы. Блакітныя ад тэлевізараў. Рухавыя постаці гаспадынь на кухнях. Прот любіў глядзець у вокны — там жылі людзі, са ўсімі сваімі справамі.

Адчуваў пякучы боль у пальцах левай нагі. Цісну бот. „Халера, лепш было іх не абуваць. Але што ж такое, завялікі, а муляе?..” — думаў, прыкусваючы вусны. Марыў сесці, разбуцца, адпачыць.

З вузкага шматпавярховага будынка з апошніх паверхаў ляцеў уніз шкілет ёлачкі, павяваючы анёльскім воласам. Адно дрэўца ўжо гарэла ў сметніку, асыпанае з іголак, вяршком у бачку, дыміла едкім пластыкам. На брудным снезе сядзелі два каты. Адзін, буры, засяроджана мацаваўся з рыбіным хвастом, другі, пярэсты, плоскалобы, з круглымі, бы мышынымі, вушкамі, насцярожана азіраўся з узнятай лапкай.

— Вяў! — віснуў бурас — Цаца шпурнуў у яго парваным мяшком — і знік, пакуль рэкламоўка даляцела да зямлі.

— Не руш, Валік, дай чалавеку спакойна паесці, — буркнуў Прот, вылавіў у сваёй торбе паперыну з каўбасай, навобмацак адламаў ладны кавалак і кінуў пярэстаму, які, настабурчаны, канчаў жаваць рыбіну, адцягнуўшы яе далей ад няпрошаных гасцей, у кут сметніка, пад крывыя бляшаныя бачкі з шапкамі смецця. Кот завурчаў, ухапіў каўбасу ў паветры і адным скокам кінуўся пад піраміду кардонаў.

— Во ля, будзеш катам раздаваць закусь, абаронца ўдоваў, сірот ды піўнічных валакітаў? — зарагатаў Цаца. — Але, глянь, у Базыля святло не свеціцца ў акне. Не бачыш? Дарэмна мы столькі цягнуліся!

— Не, бачу: паліцца начная лямпа. Пэўна, заваліўся з паненкай ці гарэлачку сёрбае.

— А ну, мастак, вочы мае добрыя, — пры такім святле разбірацца з дзяўчынкай!

Студня сходаў дзьмухнула тухлым скразняком, з цёплым падвевам ад калярыфераў. Грукнулі вечна адчыненыя дзверы з гумкай каля клямкі, якую начапіў прыбіральшчык, „гаспадар дома”, як яго называлі, каб хоць крыху сцішыць бразгатню. Ліфт у гэтым доме вечна не працаваў.

Прот суха пакашліваў. У цемры не трапляў на прыступкі, біў наскамі ботаў у бетон, сыкаў з болю. Засопся і Цаца. Прот пстрыкнуў запальнічкай. У скразняку вогнік коса выцягнуўся, асвятліў злосны, узмакрэлы Цацаў твар. Прот плюнуў з чацвёртага паверха ўніз паўз парэнчы, прыслухаўся. Кашлянуў. Плоскае рэха адбілася ў халодным нутры дома.

Кароткія тры званкі, як заўсёды. Цішыня. Прот сцягнуў рукавіцу, грукнуў кулаком у дзверы.

— Бачыш, што такое робіцца не адчыняе!? Давай пляшку, Прот, пойдзем у іншае месца! Я ж табе казаў, што не трэба было! — зашыпеў Цаца. — Мае бабу, то няма чаго перашкаджаць чалавеку. Ну, кажу табе, не адчыніць!

— Адчыніць... Малы, чуеш што?.. Газ! — выдыхнуў слабым голасам Прот і дзерганую за клямку. Прылёг да дзвярнога вочка. — О, курва, а то надумаўся! Малы, давай, ну, рррраз!

Дзверы ламанулі ў пярэднюю. Залямантаваў у суседняй кватэры сабака. За шклом кухонных дзвярэй цьмяна дрыжала святло. Хлынула ўдушлівая хваля. Прот кінуўся да акна, паткнуўся аб цела ўпоперак малюсенькае куханькі. Цаца адчыніў дзверы і акно ў пакоі, падбег да Прота, павіслага над балюстрадай балкона. За дзвярыма паказаліся твары суседак; адну з іх, паню Галену, Прот ведаў — час ад часу частавала Базыля пірагом.

— Чаго вы, курвы, вырачыліся?! Званіце па лекара! — істэрычна запішчаў белы як сцяна Цаца.

Прот кінуў сваю торбу на падлогу. Грукнула бутэлька. „Ой, пабіў” — застукала ў ягонай галаве. — „Ой, не вып'ем мы сёння...” На мяккіх нагах павалокся на кухню, спаймаў у вусны пару кропляў з цякучага крана — зноў пацягнула на ваніты.

Базыль ляжаў, белатвары, са спакойнай усмешкай на спухлых вуснах, быццам глыбока спаў, толькі свяціліся бялкі напаўрасплюшчаных вачэй. Схапілі яго, пацяжэлага, за рукі і ногі, пацягнулі на заснежаны балкон.

— Вазьму коўдру, не пакладзем жа яго на снег, яшчэ прастыне, — Прот адной рукой цягнуў з разбабэшанага ложка брудную атласавую коўдру без навалачкі. Рука Базыля бязуладна павісла, валаклася па даўно не падмятанай, у пяску і нейкіх пухах падлозе. Цаца гідліва ўзяў яе за рукаў, закінуў на Базылёвы жывот.

Прот укленчыў, ірвануў кашулю на грудзях сябра, прыклаў вуха да вільготнае скуры. Сэрца білася памалу, ледзьве вычувальна, але Базыль быў жывы.

Прот раптоўна скурчыўся, бы хто саданую яму нажом у жывот. Схапіў прыгаршчу снегу, заціснуў з зубах. Павіс на халоднай парэнчы на колкім выдыху. Сэрца. Расцёр снег на твары. Холаду не чуў. З суседняга акна штосьці з шумам паляцела ўніз, мякка цокнула пад домам. Гэта зноў выкінулі непатрэбную, адсвяткаваўшую ёлачку.

Толькі цяпер да яго вушэй, выпаўненых гулам крыві, даляцелі іншыя галасы начнога горада. У доме насупраць на апошнім паверху мігцелі забытыя неонавыя літары: *SZCZĘŚLIWEGO NOWEGO ROKU 1994.*

А з пакоя ўжо беглі медсястра з лекарам. Цаца з тварам спалоханым і ўрачыстым вёў іх да распасцертага на левым баку здранцвелага сябра. Прот сцёр снегам з Базылёвага палічка стружку жоўтае сліны.

Голая лямпачка. Голая стоватавая жароўка асвятляла іх усіх. Прот высунуўся ў пакой, праціснуўся паміж цікаўным тлумком суседак. Апусціўся на канапу. Цені ад ног. Пясок на падлозе. Кідалася пад лямпай, білася аб шкло спалоханая разбуджаная з зімовага сну вялікая цёмна-зялёная муха. Нейкая баба ў атласавым халаце паткнулася аб торбу з цёмнай плямай ад разлітае гарэлкі. „Замокла, відна, мая каўбаска” — падумаў Прот.

На супрацьлеглай сцяне, побач старых, вядомых Проту Базылёвых карцін „Мая сястра з чырвонай какардай” і „Ян сын Яна” вісела новая. Гэта было вядомае Проту з эскізаў, маляванае доўга і пакутліва, „Вяртанне марнатраўнага букета”.

Зноў адчуў моцны боль у левай назе. Застылымі пальцамі доўга мацаваўся са шнурком, разгінаў мяккую быдлячую скуру. Шкарпэтка была цвёрдая ад закарэлай, брунатнай крыві.

Пакульгаў на пяце ў кухню. Халодная вада пякла агнём. Глядзеў на яе. Сплывала па трубах у нутро дома, уцякала ў рэчышча падземных жылаў горада, адыходзіла ў вечную раку. І зноў вярталася.



# Быць чалавекам — гэта быць сабою

Нашы беларусы — людзі шчырыя, адкрытыя, а часамі і ўпартыя. Хочам і маем права на тое, каб быць сабою, калі не крыўдзім гэтым іншай асобы, але з гэтым ужо па-рознаму бывае.

Многія людзі баяцца як адмоўных, так і пахвальных ацэнак. У прыватнасці ж, адмоўныя ацэнкі нараджаюць у нас страх. Клопат з выяўленнем станоўчых пачуццяў з'яўляецца ў вялікай меры адбіткам мінулага — абазначае ён, што калісьці блізкая нам асоба не ўмела выявіць у дачыненні да нас цяпла ды ў сваю чаргу не прымала такіх жа пачуццяў ад нас. Калі хто выяўляе адно негатыўныя пачуцці, дык у яго замест душы розныя адценні гневу, злосці, незадаволенасці, ці раздражнення. Выяўляючы гнеў, можна голасна гаварыць ці нават крычаць, але найважнейшае, каб сказ пачынаць са слова „я”, а не „ты”. Прыкладна, замест „ты ідыёт, бо ніколі не навучышся выключаць ток, калі бярэшся змяніць электралямпачку”, можна сказаць „мне не падабаецца, што так гуляеш з небяспекай”. Калі хочаш выказаць сваю думку, не аспрэчваючы свайго права на погляд, дык не адмаўляйма гэтага права і іншаму чалавеку. Як ведаем, кожны чалавек мае права на свой пункт гледжання, а абмен поглядамі з'яўляецца вартасцю самой у сабе, бо ўзбагачае людзей. Дзве асобы з рознымі поглядамі маюць рацыю таму, што ў кожнага свая рацыя, а спрэчка за іх траціць усякі сэнс. Толькі быўшы сабою ды гледзячы на свет вачыма розных людзей маем шанц стаць сапраўдным чалавекам.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# СВЯТЫЯ СЫМОН БОГАПРЫІМЕЦ І ГАННА ПРАРОЧЫЦА

Памяць святых Сымона і Ганны Прарочыцы неразрыўна спалучаецца са святам Стрэчання Гасподняга, якое адзначаецца 15 лютага (2.02. па старому стылю). У гэты дзень успамінаем прынясенне ў іерусалімскі храм саракадзённага Богамладзенца Ісуса і сустрэчу (стрэчанне) яго Праведным Сымонам. Прысутнічала ў гэтым таксама Святая Ганна. Гэты абрад быў згодны з яўрэйскімі законамі і быў ён устаноўлены на памяць выратавання першародных яўрэйскіх сыноў падчас выхаду з егіпецкай няволі.

Св. Сымон быў справядлівым і богабаязным чалавекам. Прыналежаў ён групе перакладчыкаў, якія ў III стагоддзі да нараджэння Хрыста зрабілі пераклад Свяшчэннага Пісання са стараяўрэйскай мовы на грэчаскую, г. зв. Септуагінты. За тое, што ён, перакладаючы кнігу Ісаі, усумніўся ў тым, што Месія народзіцца з Дзевы (Ісая, 7: 14), атрымаў ён ад анёла абяцанне, што ён не памрэ да таго часу, пакуль не возьме на рукі абяцанага Збавіцеля. У той час пашыралася падзенне веры і маралі ў яўрэйскім народзе. Калі Богамладзенец Хрыстос быў прынесены ў храм, старац Сымон быў паведамлены аб гэтым Святым Духам. Ён не толькі пабачыў але і ўзяў на свае старэчыя рукі Младзенца Хрыста. Чакаючы доўгімі гадамі прыходу Збавіцеля, Сымон у гэтым выпадку быў быццам бы прадстаўніком усяго Старога Запавету і „тайным прапаведнікам новай ласкі Божай”.



Разам са Справядлівым Старцам у сустрэчы Хрыста ўдзельнічала 84-гадовая Прарочыца Ганна. Сем гадоў правяла яна ў сужонстве; аўдавеўшы, засталася пры храме, і там аддавалася малітвам і посту. Дапамагала яна ў розных працах, ніколі не пакідаючы храма. За сваю работу і богабаязнасць атрымала яна ад Бога дар прадказваць будучыню. Стала ўзорам сапраўднай удавы і слугі Божай. Яна таксама далучыла да Сымонавага і свой голас для ўслаўлення Богамладзенца падчас сустрэчы ў храме. Потым з добрай навінай аб надыходзе Месіі падалася на вуліцы Іерусаліма, абвяшчаючы гэтую вестку тым богабаязным людзям, якія з верай і надзеяй чакалі надыходу Збавіцеля і былі годныя пачуць такую навіну.

Памяць святых Праведнага Сымона Богапрыімца і Ганны Прарочыцы ушаноўваем 16 лютага (3.02 па старому стылю).

*Паводле „Настольной книги” С.В. Булгакава (Харкаў, 1900)*

*апрацаваў* **С. Н.**




## МАГУТНЫ БОЖА, ДАПАМАЖЫ!

Я — пастаянны ваш чытач, праваслаўны беларус, хачу сардэчна падзякаваць Васілю Антанюку за артыкул „Бяда наша ў арыентацыі” („Ніва” н-р 3 ад 16 студзеня г.г.), у якім праўдзіва ацаніў канфлікт, узніклы пасля выказванняў каталіцкіх ксяндзоў у тыднёвіку „Gość Niedzielny”. Выказванні каталіцкіх іерархаў, якое выклікала паўсюднае глыбокае абурэнне сярод беларускага насельніцтва, нельга нічым апраўдаць. Я хачу спыніцца на галоўнай думцы В. Антанюка: дзе крыніца таго, што нас, карэнных жыхароў Беласточчыны, беларусаў, называюць чужынцамі ды нейкай там пятай калонай? Гэта, перш за ўсё, хлусня і ганьба для тых, што такое пра нас гавораць. Ці гэтыя вучоныя людзі не ведаюць гісторыі Рэчыпаспалітай, не памятаюць як пралягалі граніцы паміж Вялікім княствам Літоўскім і Каронай? І хаця аўтары згаданых выказванняў прамоўчваюць нявыгадныя ім факты, мы, праваслаўныя беларусы, ведаем праўду. Ведаем таксама, хто стараўся і далей робіць усё магчымае і немагчымае, каб беларусаў Беласточчыны пазбавіць роднай мовы і нацыянальнай свядомасці.

В. Антанюк выказаў таксама горкую праўду наконт праваслаўнага духавенства, якое з вялікай упартасцю стараецца нам, беларусам, прывіць непатрэбную тут нікому расейшчыну. У нашым рэгіёне праваслаўныя святары ў сваёй большасці выводзяцца з Беласточчыны і іхняй роднай мовай была беларуская. Дык што з імі сталася?

У 1992 годзе мне прыйшлося быць прыслужным у праваслаўнай царкве ў горадзе Сарны на Украіне. Там увесь малебен і пропаведзь спраўляліся на ўкраінскай мове. Хачу тады запытацца ў праваслаўнага духавенства Беластоцка-Гданьскай епархіі, ці праваслаўныя ўкраінцы вераць у нейкага іншага Бога, калі моляцца да Яго на сваёй роднай мове? Ці беларускаму праваслаўнаму верніку, каб быць выслуханым Богам, трэба адракацца сваёй роднай мовы і звяртацца да Яго толькі на „общепонятном русском языке”?

Кожную нядзелю раніцай па Беластоцкім радыё гучаць перадачы „Перад выхадам у царкву” на беларускай мове. Ці ж не прыемна іх слухаць? Сардэчна дзякую айцу Рыгору Місеюку за перадачы! Некалькі разоў прыйшлося мне ехаць у аўтобусе падчас іх эмісіі. Кожны раз шафёры — магчыма, што праваслаўныя беларусы, узмацнялі гучнасць прыёмніка, так што чуваць было да паловы аўтобуса. Усе пасажыры з увагай прыслухоўваліся да перадач на беларускай мове. Не здарылася, каб нехта выказваў непрыхільныя каментарыі.

Шаноўныя святары! Вы яшчэ не забыліся роднай беларускай мовы. Калі ў вас будзе ахвота, дык зможаце Святое Евангелле і пропаведзі чытаць на беларускай мове. Шчыра вас заклікаю: будзьце ж вернымі сынамі свайго народа, святой бацькаўшчыны — Беларусі! Прыйшла ўжо пара пакінуць „общепонятный язык” і прапаведаваць сваім вернікам Божую навуку на роднай беларускай мове! За гэта чакае Вас вялікая падзяка ад вернікаў, бо сапраўды годзе ўжо гэтай чужой трасянкі! Калі мы станем нармальным народам, тады не будуць нам ставіць закідаў, што мы — нейкая маскоўская пятая калона. Свой допіс канчаю малітвай: „Магутны Божа, гэта Ты калісь народы на асобкі падзяліў. Ты хацеў, каб народ кожны мовай роднай цябе ўсхваляў. Дык дапамажы нашым святарам, каб звярталіся да Цябе і вернікаў на роднай Беларускай Мове...”

**Ю. ПРАКАПОВІЧ**

# НЯДЗЕЛЯ АБ ЗАКХЕЮ

Перыяд падрыхтоўкі да Вялікага Посту пачынаецца на практыцы з Нядзелі аб Мытніку і Фарысею. Менавіта тады ўпершыню чуем малітву-трапар: „Покаяния отверзи ми двери, Жизнодавче...”. Яна выразна напамінае, што ўжо пачаўся перыяд падрыхтоўкі да пакаяння. Аднак, першы яго прадвеснік — нядзеля аб Закхею — з'яўляецца ўжо тыдзень раней. Евангелле на гэтую нядзелю (Лука, 19; 1-10) прыводзіць такую вось прытчу:

*1. І, увайшоўшы, праходзіў праз Іерыхон.*

*2. І вось, нехта на імя Закхей, начальнік мытнікаў і чалавек заможны,*

*3. хацеў убачыць Ісуса, які Ён? але не мог за народам, бо быў малы ростам;*

*4. і забегшы наперад, узлез на смакоўніцу, каб убачыць Яго: Ён мусіў прайсці міма яе.*

*5. І, прыйшоўшы на гэтае месца, Ісус, глянуўшы, убачыў яго і сказаў яму: Закхей! зыдзі хутчэй, бо сягоння трэба Мне быць у цябе ў доме.*

*6. І той паспешна зышоў і прыняў Яго з радасцяй.*

*7. І ўсе, бачачы гэнае, пачалі наракаць і гаварылі, што Ён зайшоў да грэшнага чалавека.*

*8. А Закхей, стануўшы, сказаў Госпаду: Госпадзе! палову маёмасці мае я аддам убогім і, калі каго чым скрыўдзіў, аддам учацвёра болей.*

*9. Ісус сказаў яму: цяпер прыйшло спасенне дому гэтаму, бо і ён сын Аўраама;*

*10. бо Сын Чалавечы прыйшоў знайсці і спасці загінуўшае.*

Галоўная думка гэтай прытчы — прага пабачыць Хрыста. Закхей, чалавек нізкага росту, так моцна хацеў пабачыць Госпада, што аж узлез на дрэва, перамагаючы сваю фізічную недасканаласць. Жаданне, каб апынуцца як найбліжэй Хрыста, было так вялікае, што ніштo не магло яму перашкодзіць у гэтым.

Прыклад Закхея, іерыхонскага мытніка, паказвае нам, што павінна стаць пачаткам шляху да Бога. Павінна ім быць жаданне ўвайсці на гэты шлях.

Гэтым прыкладам Царква дае нам знак, каб зрабіць гэты першы крок. Бог — міласэрны і літасцівы і прыме нашу ахвяру пакаяння. Мы мусім толькі моцна жадаць увайсці на гэты шлях. Калі так будзе, дык Хрыстос напэўна дапаможа нам у далейшай дарозе, якая вядзе нас праз увесь перыяд Вялікага Посту і ў выніку давядзе нас да Уваскрэсшага Госпада.

**С. Н.**

# ДЛЯ ТЫХ, ШТО НАС ХОЧУЦЬ ВУЧЫЦЬ

Ёсць яны сярод беларускіх вучоных і літаратараў. Вучаць маральнасці, любові да роднае мовы, пашаны да людзей і г.д. Але, паглядзіце, як некаторыя з іх вядуць сваё жыццё, якая ў іх прыватная культура? Колькі ёсць сярод іх распуснікаў, спакуснікаў нявіннай моладзі, яўнагрэшнікаў, а навучаюць іншых: „Ідзіце чыстай сцежкай праўды”! Сярод іх ёсць і людзі ўжо немаладыя, вучаць у сваёй творчасці маральнасці і талерантнасці, а самі бываюць прыкладам чагосьці зусім адваротнага. Мы, простыя людзі, называем гэта адным словам — **крывадушнасць**. Вось яны павінны, у першую чаргу, самі навучыцца, а пасля вучыць іншых.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# Куцця ў Старыне

Набліжаліся Каляды — час вялікіх падрыхтовак да сямейных сустрэч, час роздуму пра мінулае, час чакання самых блізкіх людзей (членаў сям'і, сваякоў), час духовага спалучэння з тымі, хто адышоў ад нас назаўсёды. Кожны з нас перажывае гэтыя святы інакш. Часта не ўяўляем сабе, як праводзяць святы адзінокія людзі, тыя, якія страцілі самых блізкіх свайму сэрцу асоб, а іх сем'і часта знаходзяцца далёка па-за межамі нашай краіны. Наша вёска старэе, людзей адзінокіх становіцца ўсё больш.

Куцця — гэта асаблівы вечар, калі з'язджаецца сям'я і ўсе разам сядаюць за стол вячэраць, успамінаюць мінулы год, віншуюць са святам. На стол пад абрус кладуць сена, рыхтуюць 12 посных страў. Аднак не ўсім дадзена сядзець за такім сталом. Адзінокія вячэраюць самі, плачучы над сваім лёсам.

Свяшчэннік Віталій Гаўрылюк з Дубіч-Царкоўных, добра ведаючы матэрыяльнае становішча людзей у сваім прыходзе, сарганізаваў Куццю для адзінокіх. Думаў ўсё наладзіць тут, у Дубічах на плябаніі. Звярнуўся ён з такой прапановай да войта Дубіцкай гміны — Анатоля Паўлоўскага. Войт вельмі ахвотна падтрымаў высакародную ініцыятыву. Вячэру планавалі наладзіць у Гмінным доме культуры ў Дубічах-Царкоўных. Арганізацыяй мела заняцца дырэктар Дома культуры Іаланта Соха. Частку грошай згадзілася выдзяліць грамадская апека. Некалькі дзён перад Калядамі гмінныя ўлады дайшлі да вываду, што лепш Куццю наладзіць у доме адпачынку ў Старыне, дзе ёсць ужо прыбраная зала і кухоннае памяшчэнне. У далейшым засталося свяшчэнніку сабраць адзінокіх з навакольных вёсак Дубіцкага прыхода. Людзі не верылі, думалі, што гэта жарт, пыталіся пра цану. Толькі людзі, якія не падымаюцца з ложка, не маглі пакарыстацца запрашэннем. Астатнія прынялі гэты нечаканы дар. Сабралася ўсяго 28 чалавек (з Тафілаўцаў, Руткі, Елянкі, Чэхаў, Старыны і Грабаўца). У гэты дзень ад 14-ай да 16-ай гадзіны школьны аўтобус ездзіў па вёсках і збіраў людзей. Некаторым трэба было дапамагчы ўвайсці ў аўтобус. У 18 гадзін, калі на небе паявілася першая зорка, усе селі за стол і заспявалі „Отчэ наш”. Айцец Віталій Гаўрылюк расказаў пра дванаццаць страў і пажадаў усім усяго добрага.

У часе вячэры ўдзельнікі сустрэчы глядзелі відэафільм са святкавання Пятра і Паўла (12. VII. 1993 г.). Тады царкву ў Дубічах-Царкоўных наведаў мітрапаліт Васілій. Госці слухалі таксама калядак і самі іх спявалі.

Куцця адбылася ў прыгожа прыбранай зале. У кутку стаяла ўпрыгожаная ёлка, а на кожным стале — маленькая ёлачка са свечкай. Стварыўся ўрачысты настрой. Вечар закончыўся „благодарственною” малітвай. Вячэра працягнулася да 21 гадзіны, а аўтобус развозіў удзельнікаў амаль да самай поўначы. Людзі былі вельмі ўзрушаныя, некаторыя ў час вячэры плакалі, калі айцец Віталій гаварыў пра духоўнае з'яднанне з блізкімі ў той вечар. Людзі дзякавалі святару за тое, што прывёз іх у „рай”. Некаторым першы раз за час свайго доўгага жыцця давялося пабываць на такім урачыстым вечары.

Бачачы вялікую патрэбу дапамогі сваім вернікам, айцец Віталій Гаўрылюк сказаў, што праз год таксама трэба арганізаваць такі вечар для адзінокіх людзей усёй гміны (прыходы Дубічы-Царкоўныя, Вярсток і Стары Корнін). Дубіцкі войт ахвотна згадзіўся. Праз год адзінокія людзі таксама адчуюць, што хаця адзін дзень у годзе хтосьці пра іх памятае, а гэта можа даць ім сілу пераждыць яшчэ наступны год. А можа з той пары перастануць яны жыць у адзіноцтве, можа, знойдуць тут сваю братнюю душу.

Мне застаецца толькі павіншаваць ініцыятараў і арганізатараў такой задумы. Можа гэтае заахвоціць і іншых пераняць такую ідэю.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

# МАЯ НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

## Частка I

У верасні 1993 года Наталля Арсеннева — выдатная беларуская паэтэса ўвайшла ў дзевяностыя год свайго жыцця.

Задумоўваюся, калі я першы раз сутыкнуўся з Яе паэзіяй. Так, сёння ўжо не маю ў гэтай справе сумненняў. Было гэта ў 1942 або ў 1943 годзе, у суровыя часы нямецкай акупацыі. Школы ў гэты час у нас не было і я сядзеў дома. У святы і па вечарах у будзённыя дні я чытаў рускія кніжкі, якія пазычаў ад братоў Аляксандра і Валодзі Казберукоў. Казберукі ў даваенны і савецкі час вучыліся ў гімназіі ў Беластоку, а ў перыяд вайны займаліся гаспадаркай. Мелі яны вялікую бібліятэку і ахвотна пазычалі мне кніжкі. Найбольшае ўражанне на мяне рабілі вершаваныя казкі Пушкіна, якія я чытаў для ўсёй сям'і.

Аднаго вечара наведаў нашу хату наш сваяк Валодзя Хлябіч з вёскі Рыбакі, якая знаходзілася ад Бандароў у адлегласці няпоўнага паўкіламетра. Валодзя Хлябіч быў свядомым беларускім дзеячам у пасляваенны перыяд. Выпісваў некалькі беларускіх газет і часопісаў, купляў таксама беларускія кнігі. Валодзя, пачуўшы, як я чытаю Пушкіна сказаў: „Добра, што чытаеш па-руску, але мы павінны таксама чытаць беларускія кнігі". Пачуўшы, што я такіх кніг не маю, ён сказаў, што прынясе мне нешта з таго, што мае ў сваёй бібліятэцы. І сапраўды, праз некалькі дзён прынёс тры кніжкі. Былі гэта паэмы Якуба Коласа „Сымонмузыка", „Новая зямля" і кніга вершаў „Пад сінім небам" Наталлі Арсеннева. Аб Якубе Коласе я тое-сёе ведаў, бо яго творы былі ў падручніку, з якога я вучыўся ў школе ў перыяд савецкай улады, але аб Наталлі Арсеннева ніколі і нічога я не чуў.

Кнігі, прынесеныя Валодзем Хлябічам я чытаў каля двух тыдняў. Калі прызнацца, дык спадабалася мне найбольш „Новая зямля". Крыху меней „Сымон-музыка" і найменей „Пад сінім небам" Наталлі Арсеннева.

Пры маіх 12 ці 13-ці гадах падабаліся мне найбольш вершаваныя творы з казачнымі або бытавымі элементамі і матывамі. Найменш мяне цікавілі апісанні прыроды, якія я, як правіла, абмінаў і ўвогуле іх не чытаў. У сувязі з тым, што ў зборніку Наталлі Арсеннева дамінавалі пейзажныя матывы, я не многа знайшоў у ім такіх твораў, якія б мяне цікавілі. Аднак сказанае не адносілася да ўсіх раздзелаў зборніка. Апошні з гэтых раздзелаў называўся „Зачараваны кут" і групаваў вершаваныя апавяданні і казкі. І якраз гэтая частка кнігі прыйшлася мне да густу. Пасля прыблізна двух тыдняў Валодзя Хлябіч забраў пазычаныя кнігі і прынёс новыя.

Я на працягу зімы прачытаў усе кнігі, якія меў у сваёй бібліятэцы Хлябіч. Неяк вясной, выпадкова сустрэўшы мяне ў Рыбаках, Хлябіч спытаў мяне, якія кніжкі, найбольш мне падабаліся. Я падумаўшы крыху адказаў, што „Новая зямля" Якуба Коласа і „Пад сінім небам" Наталлі Арсеннева. Пасля гэтага Валодзя Хлябіч завёў мяне ў сваю хату, узяў з паліцы гэтыя дзве кнігі, уручыў мне і зажартаваў:

— Дару табе гэтыя кнігі на ўласнасць. Бяры, чытай, вучыся, можа калісьці і сам будзеш пісаць вершы.

Валодзя Хлябіч перажыў вайну, але, мабыць, на другім ці трэцім годзе пасля вайны памёр на сухоты, на якія тады не было ніякага эфектыўнага лякарства. Адзінай памяткай, якая па ім засталася ў маім жыцці, былі ўжо названыя кнігі.

Пасля вайны, разам з нарастаючай маладосцю і разумовым дасьпяваннем, я ўсё часцей сягаў па зборнік Наталлі Арсеннева „Пад сінім небам", у якім пачаў знаходзіць тое, што адпавядала маім паэтычным густам і маёй чалавечай душы. Перасталі мяне цікавіць вершаваныя казкі і ўсё болей прыцягвалі вершы аб прыродзе.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# АХОВА ПОМНІКАЎ ЦАРКОЎНАГА МАСТАЦТВА

*(...) Звяртаемся да ўсіх людзей добрай волі — дапамажыце захаваць каштоўныя помнікі культуры, бо, як пісаў Гоголь, з'яўляюцца яны ступнямі на шляху дасканалення кожнага з нас. Калі знікнуць, кожны з нас, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, збядзее (...)* Прачытаў я гэта ў звароце Грамадскай камісіі па нагляду за помнікамі царкоўнага мастацтва. Камісія дзейнічае дзесяць гадоў пры Галоўным праўленні таварыства па нагляду за помнікамі даўніны ў Варшаве (ul. Piękna 44 a). Беластоцкім аддзелам кіруе Анатоль Адзяевіч — навуковы супрацоўнік Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Каардынатарам даверных рэстаўратарскіх работ з'яўляецца Пётр Амельянюк — настаўнік гісторыі ў Агульнаадукацыйным ліцэі н-р 1 у Гайнаўцы. На працягу дзесяці гадоў дзейнасці камісіі ўдалося аднавіць многа сакральных аб'ектаў, пераважна ў паўднёва-ўсходняй Польшчы. Былі гэта цэрквы, капліцы, званіцы, могілкі, што асталіся на тэрыторыі, дзе была праведзена акцыя „Вісла". Рэстаўратараў могілак спаткаў я ўвосень мінулага года ў Гайнаўцы. Менавіта, дзякуючы захадам камісіі, старыя, не ўжываныя ўжо, могілкі ў Новым Беразове (гм. Гайнаўка), былі ў 1992 годзе занесены ў рэестр помнікаў даўніны. Вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы і прыхільнасць падчас арганізацыі рэстаўратарскіх работ аказалі настаяцелі мясцовага прыхода: пакойны а. Сяргей Стальбоўскі і цяперашні — а. Яўген Здраеўскі. Дзякуючы датацыям ад Галоўнага рэстаўратара, камісія прынялася за работу. Пачалося з упарадкавання дрэвастою: былі высечаны ўсохлыя дрэвы, дзікія кусты, самасеі. Рэстаўратарскімі працамі кіруе асабіста загадчык Кафедры рэстаўрацыі Акадэміі мастацтваў у Варшаве Януш Смаза. Рэстаўратары запэўнілі мяне, што ўсе работы будуць зроблены — поўная апісальная і фатаграфічная дакументацыя перад, падчас і пасля рэстаўрацыі, а таксама дакладны план могілак. Частку прац, згодна з дзеючым законам, выконваюць спецыялісты (працы ў камені і метале), а частку (сталярства, цяслярства) мясцовыя рамеснікі. Многія з апошніх адбылі немалую практыку, будуючы невялікі скансэн у Белавежы. Спадары Адзяевіч і Хвашчэўскі з Беластока кіруюць сталярскімі і цяслярскімі працамі пры аднаўленні драўляных крыжоў і надмагільных помнікаў.

Пётр Амельянюк сказаў, што ў наступным этапе камісія зоймецца аднаўленнем паасобных забытых надмагільных помнікаў, прыдарожных крыжоў і іншых аб'ектаў, звязаных з нашай абраднасцю — сведкамі нашай тут прысутнасці. Камісія разлічвае на дапамогу гаспадароў прыходаў: настаяцеляў і прыходскіх радаў. У працы камісіі дапаможнымі будуць таксама фактаграфічныя дакументацыі нястомнага даследчыка Барыслава Рудкоўскага з Бельска-Падляшскага. Дагэтуль Камісія па нагляду за помнікамі царкоўнага мастацтва выратавала больш за сорак могілак, многа цэркваў, званіц і капліц. Здзейснена гэта дзякуючы шчодрасці многіх дюдзей добрай волі, а таксама дапамозе фонду Генеральнага рэстаўратара помнікаў даўніны.

Дзякуючы падобнай шчодрасці і ахвярнасці нашага грамадства, незадоўга завяршыцца пабудова Музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы. Будуць у ім каштоўныя экспанаты — помнікі матэрыяльнай і духовай культуры нашых продкаў, якія жылі на гэтай зямлі; помнікі, звязаныя з гісторыяй, рэлігіяй, абраднасцю, мовай і фальклорам. Захаванне гэтых каштоўнасцяў нашай культуры з'яўляецца нашым патрыятычным абавязкам. І хаця перажываем вялікія эканамічныя цяжкасці, думаю, што знойдуцца людзі з высакароднымі сэрцамі і не пашкадуюць грошай для гэтай цудоўнай мэты.

**МІХАЛ ГОЛУБ,**
**Гайнаўка**

P.S. Зацікаўленым падаю адрас і банкавы рахунак: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3-go Maja 42, telefon 30-16, Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217—1922—2710.

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

# ЧАТЫРЫ ДНІ ПЕРАД ВЫЗВАЛЕННЕМ

## 1 лютага 1945 г.

Учора савецкія салдаты ўвайшлі ў Гайльсберг — горад у васьмі кіламетрах на ўсход ад „нашай" вёскі Памэйрэн (што на Памор'і). Вечарам і ноччу пад лесам палыхала чырвонае зарыва пажараў. Гэта на працягу некалькіх гадзін гарэў Гайльсберг (Лідзбарк-Вармінскі).

Сёння па дарозе ў Ляўна немцы ўцякаюць на захад. На вазах у іх, як у цыганоў, харчы і ўвесь дабытак, нават свінні і хатнія птушкі ў клетках. Многа і пешых бежанцаў з клункамі. Па замерзлай калдобістай пясчанай дарозе час ад часу праязджаюць вайсковыя аўтамашыны і матацыклы.

Ля дарогі знаходзіцца хутар, дзе працуюць Валянцін і Пэтэр. Усяго 150 метраў ад сядзібы майго баўэра. За пуняй, перпендыкулярна да дарогі, ідзе сценка ў напрамку Васэндэна. На ёй пуста, толькі калі-нікалі праходзяць салдаты ў нямецкай форме. З поўдня, ад Вэсэндэна, чуваць стрэлы, відаць, дзесьці там разгарэліся баі.

Яшчэ ўчора мой баўэр, загрузіўшы вялікі воз харчамі, неабходнымі прадметамі ды клеткай са свіннёю, паехаў з жонкаю на захад. Па дарозе сустрэў ён цесцяў з дачкой, якія таксама ўцякалі на калёсах. З імі была ягоная трохгадовая дачка, якая ў іх выхоўвалася. На іхнім хутары асталіся ўкраінец Ваня і Марыя — беларуска з-пад Белавежы. На суседнім хутары працавала Каця з Кляшчэляў, з якой я калісьці часта сустракаўся, пакуль да нас не прывезлі Лідку. На хутары ў Ляўна працавала ее сяброўка-аднавяскоўка Лора — прыгожая дзяўчына, якую кахаў Валянцін.

На нашым хутары засталіся толькі сястра баўэра з мужам і трынаццацігадовай дачкою ды сын баўэра Бруна, якому было ўсяго адзінаццаць гадоў. Мы, як кожны дзень, кормім кароў, а Лідка іх доіць. На панадворку нямецкія салдаты ўстанавілі паляву кухню, а ў левым крыле дома размясцілі штаб, які ўзначаліў палкоўнік. Сюды часта заходзяць афіцэры. Заўважыў я і маёра з трынаццацігадовым хлапчуком у вайсковай форме, якія прыехалі не на машыне, а брычкай. Маю ўвагу прыцягнуў незвычайны салдацік, які добра гаварыў і панямецку, і па-руску. Быў гэта палкоўнікаў дзяншчык. Мабыць, ён — сын нейкага рускага эмігранта, які папаў у Нямеччыну пасля рэвалюцыі 1917 г. Хлопец акуратна гаварыў парусуку, дэкламаваў вершы Пушкіна і Лермантава, а нават пахваліўся, што ведае на памяць усю паэму „Яўген Анегін". На мае многія пытанні адказаў толькі, што ўсяго навучыўся ў Берліне і зараз жа запытаў мяне, ці жыў я сярод бальшавікоў.

— Да, я жил и учился в школе в 1939-1941 годах, когда Польшу заняли большевики, — адказаў я.

— А вы — поляк? — запытаў ён.

— Нет, я — белорус, но до войны я жил в Польше.

— Польши уже нет и не будет, — сказаў хлапчук і, адвярнуўшыся, пайшоў у штаб.

Савецкая армія наступала з поўдня, але, відаць, немцы іх астанавілі. Фронт прыпыніўся на захадзе і поўдні. Часам з паўднёвага боку надлятаў снарад і разрываўся недзе ў полі. Вясковую цішыню парушалі водгукі далёкіх выстралаў і выбухаў. Пацішэла і на ўсходзе, хаця Гайльсберг апынуўся ў руках рускіх.

Пасля абеду прывялі нам групу ўласаўцаў, чалавек з трыццаць. Маладыя хлопцы ў мундзірах з эмблемай РОА (Русская Освободительная Армия) на рукавах, між сабою размаўляюць на чыстай рускай мове. У мяне няма ўжо працы дык хаджу па панадворку і слухаю, аб чым гавораць немцы і ўласаўцы. Першыя наракаюць, што не ўдалося ім утрымаць абарону на поўдні і рускім удалося ў палове студзеня перарваць фронт і на працягу двух тыдняў дайсці аж сюды. Астатнія не журацца, часам нават расказваюць анекдоты, але адчуваецца, што душа ў іх баліць. Не ведаю, што чакае іх заўтра. Мне шкада іх. Не ведаю, што прывяло іх у армію Уласава? Ці палітычныя погляды, ці голад? Мабыць, адно і другое. Аб бальшавіках яны нічога не ўспамінаюць.

Лідка сабе і мне варыць страву. Немцы з палявой кухні далі мне кацялок супу з канінай. Я ўпершыню еў каніну і нават здалася яна мне смачнай.

Пад вечар хацеў я наведаць украінца Ваню на суседнім хутары і пры нагодзе зайсці да Каці. У дарозе, каля ўзгорка, з паўднёвага боку прасвісцелі кулі. На ўзвышшы стаў я добрай мішэнню для стралкоў. Адкуль яны стралялі? Ці Васэндэн сапраўды ўзяты ўжо рускімі? Дзе стаіць фронт?.. Раптам куля ўдарыла ў зямлю, побач мяне. Я хутка кінуўся назад. Не было сэнсу рызыкаваць жыццём. Неўзабаве прыйшоў да нас Валянцін. Мы крыху пагаварылі і, калі на дворы сцямнела, вярнуўся ён на свой хутар.

Лідка пакінула свой пакойчык і цалкам перасялілася да мяне на вышкі. У яе быў невялікі пакой з акном на сад у правым крыле дома, ля спальні баўэра. Цяпер у вялікім пакоі побач, на падлозе, спалі афіцэры. Хаця яны і не давалі прыгожай дзяўчыне непрыстойных прапаноў, аднак яна іх баялася і таму перанеслася да мяне. А ложак у мяне быў шырокі і цесна нам у ім не было.

*(працяг будзе)*

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ТЭХНАТРОННЫЯ ЗДАНІ

### Блуд метрапалітэнны

Даследчыкі пячораў і сутарэнняў даўно заўважылі, што ў чалавека, які апынуўся пад зямлёй, назіраюцца адхіленні ў псіхіцы: парушаецца часова-прасторавае ўспрыманне свету, блытаюцца лева і права, перад і зад. Але калі раней, да навукова-тэхнічнае рэвалюцыі пад зямлю апускаліся хіба што спелеолагі, скарбашукальнікі ды іншыя аматары смяротнае рызыкі, то цяпер пасажырапплыні метрапалітэнаў зацягваюць наніз штодня мільёны людзей. Сітуацыя пагаршаецца тым, што людзі, збітыя ў натоўп у чаканні цягнікоў нервуюцца, а іхнія адмоўныя і агрэсіўныя імпульсы не знаходзяць выйсця ў замкнёнай прасторы жалезабетоннага лёху станцыі. Бетонныя экраны адбіваюць гэтыя імпульсы і ўзмацняюць, вяртаючы ў натоўп.

З даўніх часоў невытлумачальныя і змрочныя падзеі пачалі адбывацца і на менскім метрапалітэне. Вось што паведамляецца ў афіцыйным рапарце дзяжурнага па станцыі „Кальварыйская" на імя міністра падземных камунікацыяў і сховішчаў:

„31 лютага мінулага года па станцыі ў гадзіну ночы адышоў апошні цягнік, але праз пяць хвілін мне затэлефанаваў дзяжурны па суседняй станцыі — да яго цягнік так і не прыйшоў. Мы абследавалі ўвесь тунель з ліхтарамі, але ніякіх слядоў гэтага цягніка намі знойдзена не было. Званкі да дзяжурных па ўсёй лініі таксама не далі аніякіх вынікаў. На падставе гэтага прашу спісаць з майго падуліку казённыя ватоўку і чаравікі, якія ляжалі ў кабіне машыніста".

Далейшае расследаванне аддзела транспартнай міліцыі паказала, што ватоўку і чаравікі дзяжурны знёс дахаты, але цягнік знік сапраўды. Знайшоўся ён толькі на трэці дзень, нечакана апынуўшыся на запасных шляхах. Машыніст быў п'яны зверскі і абсалютна не мог растлумачыць сваю трохдзённую адсутнасць. Справу хацелі закрыць, але следчага зацікавілі паказанні аднаго з пацярпелых пасажыраў, нейкага А.Г., які сцвярджаў, што падобныя рэчы здараліся і раней, але ніхто, нават жонка, не давалі яму веры, бо лічылі, што ён, вялікі аматар позніх застолляў у рэстарацыях і распусты ў кватэрах самотных паненак, спрабуе падобным чынам апраўдацца. Спраўдзіць словы А.Г. было цяжка; следчыя эксперыменты, тым не менш, не далі аніякіх вынікаў. Пра гэтую гісторыю ўспомнілі ў сувязі з наступным: Той жа самы А.Г., які, між іншым, быў аспірантам Інстытута вывучэння пазашлюбных адхіленняў і стэрэагамных парадоксаў, разам са сваёй лабаранткай В.Р., не маючы прыдатнага месца для навукі вырашылі правесці пазалабараторныя даследаванні ў экстрэмальнай сітуацыі — у апошнім цягніку метро. На канцавой станцыі яны не пакінулі вагон, а схаваліся пад сядзеннямі. Аспірант і лабарантка моцна здзівіліся, калі прайшло паўгадзіны, а цягнік не прыехаў у дэпо — ён імчаў па, здавалася, бясконцым тунелі. Кнопка выкліку машыніста не працавала. Нарэшце цягнік прыйшоў на нейкую незнаёмую станцыю, якая не была пазначана на ніводнае схеме. З дынаміка прагучаў сатанінскі рогат, у якім пераляканым навукоўцам пачуліся словы: „Канцавая станцыя — „Блуд". Цягнік далей не ідзе. Просьба пакінуць вагоны". А.Г. і В.Р. выйшлі на платформу і агледзеліся. На станцыі не было ані экскалатараў, ані нават прыступак. Сцены аздаблялі саламяныя інкрустацыі-пано на фальклорна-эратычныя тэмы. Аспірант і лабарантка, не маючы іншага выйсця, вырашылі выбірацца праз тунель. Яны ішлі па рэйках цэлую гадзіну і, убачыўшы наперадзе святло, прыспешылі крок. Але якім было іхняе расчараванне, калі небаракі пабачылі саламяныя інкрустацыі. Стомленыя блуканнем у поцемках, навукоўцы селі ў вагон. Лабарантка была ў роспачы, і А.Г., як мужчына, вымушаны быў супакойваць яе. Гэта не прынесла палёгкі, і аспірант перайшоў да больш актыўных формаў суцяшэння. Апрануўшыся, А.Г. і В.Р. не заўважылі, што яны не толькі памяняліся майткамі, але і надзелі іх навыварат. Пасля суцяшальнага акту яны паспрабавалі зрабіць другую спробу выбрацца са станцыі „Блуд". Гэтая спроба была паспяховай — неўзабаве аспірант з лабаранткай апынуліся на станцыі „Кальварыйская", дзе здаліся дзяжурнаму міліцыянту. Праз тры дні цягнік зноў з'явіўся на запасным шляху дэпо. Як і папярэднім разам, машыніст не мог даць верагодных тлумачэнняў гэтаму здарэнню. Нягледзячы на тое, што станцыю „Блуд" так і не змаглі адшукаць, геолагі і сапёры выявілі за станцыяй „Кальварыйская" моцную магнітную анамалію, падобную да тых, што назіраюцца ў зачараваных урочышчах і заклятых гаях, якія ў народзе носяць назоў Блуд. Паводле парадаў дасведчаных людзей, з іх можна выбрацца толькі надзеўшы вывернутую вопратку — інакш заўсёды будзеш вяртацца на тое месца, з якога выйшаў. Цікава, але спрэчнага пункту гледжання наконт знікнення цягнікоў прытрымліваецца адзін маскоўскі навуковец, вядомы сваімі юдафобскімі настроямі: ён сцвярджае, нібыта вядучы інжынер праекта менскага метрапалітэна Х. Шапіра запраектаваў разваротнае кола для цягнікоў у форме кальца Мёбіуса, праехаўшыся па якім, цягнік трапляе ў іншае вымярэнне. Падставамі для такога сцвярджэння з'яўляецца тое, што Х. Шапіра, спраектаваўшы менскае метро, не дачакаўшыся завяршэння будаўніцтва, адразу ж з'ехаў на гістарычную радзіму.

З гэтага фантастычнага, але праўдзівага здарэння вынікае, што нават выпадкова надзетыя навыварат майткі могуць уратаваць не адно чалавечае жыццё...

*(працяг будзе)*

**Падрыхтавалі**
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**і МАРЦІН ЮР**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

**Астроне!**

Мне прыснілася, што мой дзядзька дае мне кветкі. Я ведаю, што ў яго ёсць свой агародчык, дзе ён праводзіць усе летнія дні, і там расце шмат прыгожых кветак. Бачу, як дзядзька трымае ў руках кошык, напоўнены кветкамі, а пасля пачынае вымаць і даваць мне цудоўныя, фіялетавыя, у форме парасонаў кветкі. Яны свежанарэзаныя, і дзядзька проста перакладае іх у мой кошык.

Я падумала: занясу я гэтыя кветкі майму бацьку, такія яны прыгожыя, а бацька кветкі вельмі любіць. Раптам успамінаю, што ён жа ўжо памёр. Ага, значыцца, трэба занесці кветкі яму на могілкі.

І вось я ўжо быццам на могілках. Іду па алейцы, быццам у нейкім парку. Дарожка ідзе нізка, а бацькава магіла знаходзіцца вышэй, з правага боку, за агароджай. Ужо яе бачу. Свеціць сонца, вельмі прыгожа навокал. Я хачу, стоячы ўнізе, уваткнуць праз агароджу гэтыя кветкі ў вазачку, але не магу дастаць. Дык іду навокал агароджы, гэта зусім недалёка, толькі павярнула я направа. Аднак жа, калі падышла я да магілы, зрабілася цёмна, і я не бачу, куды паставіць гэтыя кветкі. Што гэта значыць?

**Марта**

Марта! Сон твой абазначае, што маеш нейкія пераходныя цяжкасці ў жыцці, ад якіх знойдзеш супакаенне. Пра цяжкасці сведчыць бацька, а пра супакой і радасць — могілкі і кветкі, сонца і прыгожае наваколле. На жаль, не адразу прыйдзе тое супакаенне — бачыш жа, што пацямнела на двары і ты не бачыла, куды паставіць кветкі.

# ВІРАВАНКА




1. гурт беларускай народнай музыкі, якім кіраваў Уладзімір Мулявін, 2. апарат, які чысціць ад пылу, 3. хвароба скуры са свербам, 4. горад на Кіпры, 5. Першы сакратар ЦК ПАРП Беларусі ў 70-х гадах, 6. адзін з кітаў, 7. аўтар кнігі „Беларусь пад нямецкай акупацыяй", 8. паўднёваамерыканская вялікая рака, 9. Хасэ, іспанскі оперны спявак, залічваецца да тройкі найлепшых тэнараў свету разам з Л. Паварoці і П. Дамінга; выступаў нядаўна ў Польшчы, 10. абаранак, 11. наёмны рабочы ў памешчыка, 12. руская жаночая вопратка.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 52 н-ра:** малако, нямота, цаліна, балада, басейн, Енісей, сірата, апатыт, статак, пазыка, гарэза, халера.



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**РЫБА З АГУРКОВЫМ СОУСАМ**

Прадукты:

*1—1 1/2 салодкаводнай рыбы,*
*1 пятрушка,*
*1 цыбуліна,*
*1 шклянка соку з кіслых агуркоў,*
*2—3 кіслыя агуркі,*
*1 лыжка мукі,*
*соль, зярняты перцу, лаўровы лісток.*

З галавы, плаўнікаў і касцей рыбы зрабіць адвар. Працадзіць яго. У рыбным булёне, дадаўшы пятрушку і сок з агуркоў, зварыць філеі рыбы. Дадаць прыправы. Варыць рыбу пад покрыўкай, здымаючы ад часу да часу пену.

Звараную рыбу выняць з адвару, адвар працадзіць. На сухой патэльні падагрэць муку, развесці яе адварам, дадаць пасечаныя агуркі. Падрыхтаваным соусам заліць пераложаную на талеркі рыбу.

**ГАСПАДЫНЯ**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4269. Надзея Андраюк (Гайнаўка) — 60.000 зл.
4270. Мікалай Клімюк (Гайнаўка) — 150.000 зл.
4271. Уладзімір Петрачук (Гайнаўка) — 140.000 зл.
4272. Панцеляймон Мароз (Гайнаўка) — 110.000 зл.
4273. Ян Даніловіч (Гайнаўка) — 150.000 зл.
4274. Б. Даніловіч (Говард) — 50 дол. ЗША
4275. Мікалай Прускі (ЗША) — 20 дол. ЗША
4276. Аляксандр Юзафовіч (Гданьск) — 5 дол. ЗША
4277. Ян Шымчук (Кліўленд, ЗША) — 50 дол. ЗША
4278. Юльян Казбярук (Гайнаўка) — 60.000 зл.
4279. Сяргей Кардаш (Гайнаўка) — 150.000 зл.
4280. Мікалай Суліма (Гайнаўка) — 60.000 зл.
4281. Аляксей Харкевіч (Гайнаўка) — 100.000 зл.
4282. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) — 150.000 зл.

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką od 1.01.1994 r. wynosi 7000 zł., a kwartalnie - 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Іранічныя радкі*

*ВІНЦУК АСЬЦЮК*

**КАЖУЦЬ...**

*(працяг)*

Кажуць, што і дэмакраты —
Тыя ж, нашы, бюракраты,
Што яшчэ амаль учора
Намі правілі ў канторах
І няма на іх закона,
Каб прагнаць, нібы варонаў.
Кажуць, што для рускай мовы
Вельмі дрэнныя ж умовы
І яна адна ў краіне
Сіратой бязлёснай гіне,
Бо яе ўсе прыніжаюць.
Бо яе забараняюць.
Беларуская ж — пануе,
Нават Кебіч з ёй сябруе,
Ды і слаўны Дземянцей
Смела кажа да людзей:
„Как хачу — так гавару!"
Прыклад многія бяруць
З гутаркі яго разумнай,
Ад якой курам не сумна,
Што сінеюць на вітрынах
Беларускіх магазінаў.
Кажуць, што мы ўсе расейцы,
Ды на нас
Патрэбны лейцы
Каб мы самі без Масквы
Не зламалі галавы.

*(працяг будзе)*






# СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Дзе ты так забрудзіўся?
— Перавярнуўся і ўпаў у лужыну.
— І ў гэтым новым касцюме...
— Гэта сталася так хутка, што я не паспеў распрануцца...

* * *

— Хто вы такі? — пытаецца псіхіятр новапрывезенага пацыента.
— Я — Кесар Напалеон!
— Пакладзіце яго ў „двойку", — гаворыць лекар санітару, — там ужо ёсць адзін Напалеон.
На другі дзень урач уваходзіць у залу н-р 2 і пытае першага пацыента:
— Хто вы?
— Кесар Напалеон!
— А вы? — пытае другога.
— Ад сёння я — пані Валеўская.

* * *

— Якая розніца паміж капіталізмам і сацыялізмам?
— У капіталізме, калі нехта раніцай голасна дабіваецца да дзвярэй, гэта напэўна разносчык малака.

* * *

У цягніку едзе сям'я і, не звяртаючы на нікога ўвагі, заядла сварыцца. Кандуктар намагаецца супакоіць іх, але беспаспяхова. Урэшце знерваваўся і гаворыць:
— Як вы не супакоіцеся, тады паклічу кіраўніка цягніка; тады будзе горш!
— Будзе горш?! — крычыць жанчына. — Гэта немагчыма: я ж вязу мужа ад каханкі, дачку — з аборта, дзіця напаскудзіла ў штонікі, едзем без білета і, нададатак, у процілеглым напрамку!

* * *

У ольштынскім рэстаране пры адным століку сядзяць два моцна п'яныя мужчыны:
— Слухай, адкуль я знаю тваю морду?
— Ды і твая мне не чужая.
— Дзе жывеш?
— У Быдгашчы. А ты?
— Таксама ў Быдгашчы. А на якой вуліцы?
— На Рамантычнай. А ты?
— Таксама на Рамантычнай. А пад якім нумарам?
— Пад пятым. А ты?
— І я пад пятым. А нумар кватэры?
— Дваццаць адзін. А твой?
— І ў мяне дваццаць адзін!
— Юрка!
— Татка!

Запісаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

ДОБРЫЯ ПАРАДЫ

## ЧЫМ ВОРАГА ЧАСТАВАЦЬ

Калі ў вас ёсць закляты вораг і вы рашылі яго даканаць, прапануем ужыць наступнае зелле.

Апоўначы выйдзіце на лесвічную пляцоўку і змяціце ўсё смецце і пыл з трэцяй і чацвёртай прыступак у фарфоравую місачку. Пасля гэтага сабярыце пучок мінулагодняй травы, дробна пасячыце і таксама пакладзіце туды ж. Потым злавіце бадзяжнага сабаку, састрыжыце з яго хваста жмут поўсці і кіньце ў тую ж самую місачку. Усё гэта трэба добра перамяшаць, заварыць і падаць пад выглядам чаю свайму непрыяцелю.

Калі вы лянуецеся падмятаць лесвіцу, лавіць сабаку і шукаць траву, можаце тыя „лекі" зрабіць яшчэ прасцей: купіце на базары пачак чаю — грузінскага, армянскага, азербайджанскага. Эфект будзе абсалютна аднолькавы.

**Н. АФІНАГЕНАВА**




*Мал. Я. Бусла*

МІЖ НАМІ

## НЕ ТРЭБА ЎСПАМІНАЦЬ!

Тэкля і Максім усё жыццё пражылі ў згодзе. Дзяцей пагадавалі, павыдавалі замуж, пажанілі, дачакаліся ўнукаў, і іх дапамаглі пагадаваць. І на іхніх вяселлях пагулялі, і праўнукаў пабачылі.

Усе іхнія патомкі былі ў горадзе. Старыя памаленьку жылі ў сваім драўляным доміку. Аднойчы вечарком пачалі ўспамінаць усё сваё жыццё.

— Ведаеш, Тэкля, пражылі мы з табою шмат гадоў, — пачаў Максім.

— Дакладна шэсцьдзесят пяць.

— Хацеў бы я ведаць, мая ты Тэкля, ці не кахалася ты з кім іншым, не здрадзіла мне? Скажы мне праўду. Мы ўжо старыя, нікуды адзін ад аднаго не ўцячэм.

— Але. Зграшыла я тры разы. Кум Васіль, царства яму нябеснае, намаўляў мяне да граху. Не вельмі мне і хацелася, але ўсё мне па пятах таптаўся. Ну то я за тры путы каўбас і купны матэрыял на сукенку пайшла з ім на сена. А другі раз то з кумам Анопам. Даў мне за ласку збан мёду і дзесяць злотых. А трэці раз з суседам Кастэнтым, за мотак воўны і пуд пшанічнае мукі. Ну, я табе сказала праўду, то і ты мне скажы. Няйначай не адно маеш на сумленні, га? Не пытаўся б...

— І я саграшыў тры разы.

— Што? — дзікім голасам завішчала Тэкля. — То гэта так?! Як я грашыла, то ўсё цягнула дадому, а ты ўсё з дому валок!

Схапіла Тэкля тое, што было пад рукою, і давай лупцаваць старога! Кінуўся Максім наўцёкі. А Тэкля бяжыць за ім і верашчыць:

— А ты такі, а ты сякі, праз бабскую спадніцу дабро з хаты выносіў!

Збегліся суседзі, давай дапытвацца, у чым справа.

— Ай-я-яй! Лепш і не ўспамінаць, што было ды прайшло, — вырашылі бабы.

**АУРОРА**

# СЕНТЭНЦЫІ

Марнатравец — блукаючы агеньчык на паркеце жыцця.

* * *

Шал у шаленстве — гэта ўздым жыцця.

* * *

У памірання смак універсальны.

* * *

Бог, ствараючы свет, карыстаўся лічыльнікамі.

**БАРЫС РУСКО**




**Сэрцайка!**

Калісьці мама мне сказала: „Памятай, дзіця, ты за свой учынак заплаціш!" Сказала яна мне калісьці такое, бо я пачала жыць з жанатым мужчынам.

Я была вясковай дзяўчынай, а ён — вясковым хлопцам. Сустрэліся мы ў Беластоку, дзе ён якраз асталяваўся на працу, хаця жонка пакуль што засталася на вёсцы. Я прыехала вучыцца на медсястру. Сустрэліся выпадкова на нейкай вучнёўскай вечарыне, куды запрасіў яго сябра-настаўнік, што працаваў у нашай школе.

Усё пачалося з таго вечара. Я яшчэ не ведала, што ён жанаты, а калі даведалася, то было ўжо позна, бо... закахалася без памяці. А ён пераконваў мяне, што ўсё тое, што было дагэтуль, было страшэннай памылкай, што так папраўдзе, дык ажаніліі яго з гектарамі, а ён ніколі тую дзяўчыну не кахаў.

Мы наняли пакойчык на перыферыі горада і пачалі жыць разам. Было мне ўсё абыякава: што скажуць людзі, яго жонка, настаўнікі. Неўзабаве я зацяжарыла. Калі я была недзе ў шостым месяцы, на панадворку я ўбачыла незнаёмую маладую жанчыну. Выразна нечага шукала. Я выйшла на двор. Жанчына шукала нас, бо была гэта яго жонка. Я запрасіла яе ў хату.

Мілае Сэрцайка! Колькі слёз выліла тады гэта жанчына, цяжка апісаць. Я бачыла, што толькі вялікае каханне магло прымусіць яе да такога прыніжэння. Значыцца, чалавек, які ўспамінаў мне пра нейкія гектары, не гаварыў усёй праўды.

А праўда была такая, што апынуўшыся ў горадзе, ён па-новаму глянуў на многія рэчы, падзеі і людзей. І ўсё тое, што пражыла там кінутая жонка, стала для яго вельмі малаістотным. Паявіліся ў яго жыцці новыя, мо цікавейшыя, людзі, новыя праблемы, ну і я, новая жанчына.

Я была даволі яшчэ зграбная, і жанчына не заўважыла маёй цяжарнасці. Заклінала мяне, каб аддала ёй мужа, а я была, як камень, бо ўжо і мне не было дзе падзецца.

Вядома, не было мовы, што тая нешчаслівая жанчына дасць мужу развод. Калі я была ў апошнім месяцы, суд даў ім развод у імя нашага будучага дзіцяці (у іх дзяцей яшчэ не было).

Пераканаеная ў тым усё ж, што я маю рацыю, бо толькі мяне ён кахаў па-сапраўднаму, я спакойна пражыла з мужам аж пятнаццаць гадоў. Нарадзіла трое дзяцей, выхоўвала іх, працавала. Ніякія прыгоды не былі мне ў галаве, бо працы было шмат, а свабоднага часу мала. Часамі дахсдзілі да мяне нейкія чуткі наконт майго мужа, але я іх не ўспрымала ўсур'ёз, бо і не магла ўспрымаць, проста мне штосьці такое ў галаву не прыходзіла.

І раптам, быццам абухам па галаве, стукнула мяне вестка, што мой муж адыходзіць з дому. Так без жалю, зусім так, як было тады, калі кінуў першую жонку і звязаўся са мною. Жанчына была нямат маладзейшая за мяне, але, відаць, ізноў была „цікавейшая".

Вялікі жаль агарнуў мяне, калі ўспомніла я, як папярэджвала мяне мама. Як магла я паверыць чалавеку, які адзін раз зрабіў такое? Толькі цяпер я поўнасцю зразумела сэнс маміных слоў: калі зрабіў гэта адзін раз, то зробіць і другі! А я ж думала, што гэта ўжо будзе каханне на ўсё жыццё... Зрэшты, і мяне Бог пакараў, бо, пакахаўшы гэтага чалавека, я несвядома скрыўдзіла тую жанчыну, якая ўжо ніколі ў жыцці не выйшла замуж і не стала маці.

Тое, што я перажыла, цяжка апісаць. Такі сорам, дзеці ж ужо вялікія. Але развод дала, не рабіла яму ніякіх клопатаў. Я і так не магла б яму дараваць таго, што ён зрабіў, дык не варта было за яго біцца. Шкада толькі дзяцей. Як ты думаеш, Сэрцайка, ці добра я зрабіла? Часамі мне здаецца, што я занадта хутка згадзілася на гэты развод. Толькі цяпер, калі засталася з дзецьмі, прыйшлі рэфлексіі. Мо і варта было неяк перацярпець, але дзеці мелі б бацьку...

**Марыя**

Марыя! Але ж альтэрнатывы не было. Калі ён сказаў, што адыходзіць, дык напэўна без жалю адышоў бы. Меў ужо ў гэтым вопыт і не рабіў праблемы. Бачыш, нават дзеці не паўстрымалі яго. Ці мела ты перад ім стаяць на каленях?! Ашукваў цябе ад пачатку, не сказаўшы, што быў ужо жанаты. Была б гэта катарга, а не жыццё. Але грошай яму не даруй. Няхай прынамсі плаціць па-божаму, калі жыць па-божаму не ўмее.

**СЭРЦАЙКА**

P.S. А плаціцца ў жыцці сапраўды за ўсё. Твая мама мела рацыю.

**С.**